**Лексікаграфічныя крыніцы**

Carmen C. de Kempin Verbos españoles, Payot Lausanne, 1999
Испанско-русский словарь под редакцией Ф.В . Кельина, М., 1964
Ногейра Х., Туровер Г.Я. Русско-испанский словарь, М. 1974
Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы пад рэдакцыяй М. Р. Судніка і М.Н. Крыўко, 3-е выданне, Мінск, 2002
Слоўнік беларускай мовы пад рэдакцыяй М. В. Бірылы, Мінск, 1987
Клышка М.К. Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў, Мінск, 1976
Байкоў М, Некрашэвіч С. Беларуска-расійскі слоўнік, Менск, 1926, факсімільнае выданне, Мінск, 1993

**Прадмова**

Іспанская мова - адна з раманскіх моваў.
Акрамя іспанскай раманскую моўную сям'ю ўтвараюць яшчэ 10 жывых моваў і іхнія дыялекты,а таксама крэольскія мовы з раманамоўнай крыніцай фармавання. Вось гэтыя мовы: аксітанская ці правансальская, галісійская, іспанская, італьянская, каталанская, партугальская, румынская, рэтараманская, сардская і французская. Як прыклад крэольскіх моваў можна падаць гаіцянскую і сейшэльскую (абедзьве маюць крыніцаю французскую мову), пап'ямэнта і кавітэньё (іхняя крыніца - іспанская мова ).

На раманскіх мовах гавораць каля 576 мільёнаў чалавек, з іх на іспанскай болей за 300 мільёнаў чалавек.

Раманскія мовы маюць агульнае паходжанне з народнай лаціны - мовы насельнікаў старажытнарымскай дзяржавы, дакладней, мовы жыхароў Апенінскай паўвыспы.

У III-II ст. ст. да н. Х. Пірынейская паўвыспа была заваявана Рымам і новую правінцыю запоўнілі рымскія гандляры, салдаты, сяляне і адміністратары. Яны і прынеслі з сабою сваю мову, якая паступова выцесніла мясцовыя гаворкі, стала пануючай, але пад іх уплывам і сама значна змянілася.

З-за агульнага паходжання раманскія мовы маюць шмат падабенства як у лексіцы гэтак і ў граматыцы, дапрыкладу:

| | іспанская | італьянская | партугальская | французская |
|---|---|---|---|---|
| зямля | tierra | terra | terra | terre |
| надзейны | seguro | sicuro | seguro | sûr |
| бачыць | ver | vedere | ver | voir |

Таму, ведаючы якую-небудзь адну раманскую мову, можна даволі лёгка навучыцца чытаць, а пры невялікай трэніроўцы і гаварыць, на іншай раманскай мове.

Іспанская мова, як самастойная мова, сфармавалася на памежжы IX-X ст. ст. у Касціліі. Менавіта таму другая назва гэтай мовы касцільская (castellano). З ростам уплыву Касціліі пашыраўся і мацнеў уплыў касцільскай мовы, ажно пакуль яна не распаўсюдзілася амаль на ўсю Іспанію.

У 1492 годзе выйшла ў свет першая граматыка іспанскай мовы, напісаная выдатным лінгвістам Антоніё Нэбрыхам ( Antonio Nebrija).

У тым жа самым 1492 годзе Хрыстафор Калумб (Cristóbal Colón) адкрыў Новы Свет, які пазней атрымаў назву Амерыка.

У Новы Свет патрапіла мноства іспанцаў. Так іспанская мова апынулася на новаадкрытым кантыненце. Зараз гэта афіцыйная мова ці адна з афіцыйных моваў 17 дзяржаў Лацінскай Амерыкі.

Значны пласт (болей за 20 мільёнаў чалавек ) іспанамоўнага насельніцтва жыве ў ЗША і ягоная колькасць стала павелічаецца.У гэтай краіне іспанская мова трывала трымае першае месца між іншых замежных моваў, што вывучаюцца ў навучальных установах.

Іспанская мова - адна з пяці афіцыйных моваў ААН.

Іспанская мова мае два роды- мужчынскі і жаночы, не мае скланення назоўнікаў і прыметнікаў (за выключэннем рэштаў скланення займеннікаў). Прыметнікі амаль заўсёды стаяць пасля назоўніка. У іспаскай мове няма катэгорый закончанага і незакончанага трыванння, гэта кампенсуецца за кошт вельмі разьвітай сістэмы часоў і спражэння. Лексіка ў іспанскай мовы цягам стагоддзяў пабагацела пазычанымі ў арабскай, англійскай, італьянскай, французскай моў словамі, а таксама словамі з індзейскіх і іншых моў.

На іспанскай мове створана надзвычай багатая мастацкая, гістарычная, навуковая літаратура як у самой Іспаніі, гэтак і ў краінах Лацінскай Амерыкі.
Іспанскі правапіс просты і лагічны.
Іспанскую мову варта вывучаць і ведаць.

На што ж здатны гэты невялічкі слоўнічак?
Найперш ён будзе добрым дапаможнікам пры пачатковым вывучэнні іспанскай мовы.
Па-другое, ён дасць магчымасць прачытаць і зразумець змест не надта мудрагелістага іспанскага тэксту. Па-трэцяе, веданне лексікі слоўніка практычна забяспечыць

звычайныя патрэбы вусных зносін з іспанамоўным суразмоўнікам. А што болей трэба, як зразумець і быць зразуметым?

Шчаслівай вандроўкі ў свет іспанскай мовы!

*Аўтары*

**Іспанскі алфавіт.**

| Літара | Назва | Передае гук | Літара | Назва | Передае гук |
|---|---|---|---|---|---|
| Aa | a | a | Ññ | eñe | ннь |
| Bb | be | б, в | Oo | o | o |
| Cc | ce | q, к | Pp | pe | п |
| Dd | de | д | Qq | ku | к |
| Ee | e | э | Rr | ere | р |
| Ff | efe | ф | Ss | ese | с |
| Gg | ge | г, х | Tt | te | т |
| Hh | hache | - | Uu | u | у |
| Ii | i | і | Vv | ve/uve | в, б |
| Jj | jota | х | Ww | ve/uve doble | ў, г |
| Kk | ka | к | Xx | equis | кс |
| Ll | ele | л | Yy | i griega | і, й |
| Mm | eme | м | Zz | ceda | q |
| Nn | ene | н | | | |

Заўвага:

Літары C і Z перадаюць міжзубны гук [q], якога няма ў беларускай мове, (такі гук у нашай мове ёсць спрадычна: гэта шапялявае “с”; у нас гэта дэфектны гук), але ёсць у англійскай, грэцкай ды іншых мовах.У лацінскім напісанні перадаецца звычайна літарамі th, гучыць як у англійскім слове thin.

Спалучэнне ll, як і спалучэнне ch, зараз не з’яўляюцца самастойным літарамі і пры пераносе падзяляюцца.

Літары B і V практычна абазначаюць адзін гук.

Літара H ніякага гуку не передае.

Літарs W і K выкарыстоўваюцца толькі ў іншамоўных словах. Літара w передае гук [ў], літара k - гук [k] whisky [ўіскі].

Чытанне некаторых складоў.

1. Літара “c”передае два гукі: у складах ca, co, cu яна вымаўляецца як “к “:casa, como, cuna адпаведна вымаўляюцца як “каса”,”комо”,”куна “. Гэты ж гук яна передае перад зычнымі: claro [кларо]

Склады ce, ci вымаўляюцца як [qE, qI ],-cena [qена], cine [qінэ ].

Склады [кэ, кі ] перадаюцца як que, qui: que [кэ ], quiso [кісо].

Спалучэнне літар “c” і “h” - ch вымаўляецца як “ч”: chico [чіко]

2. ga, go, gu вымаўляюцца як [га, го, гу] gama [гама ], goma [гома ], gula [гула].

ge, gi вымаўляюцца як [хэ] , [хі] gema [хэма], giro [хіро].

Склады [гэ], [гі] перадаюцца як gue, gui:guerra [гэрра], guitarra [гітарра].

Дзве кропкі над літарай “u” у складах gue, gui абазначаюць вымаўленне гука “u”, averigüe [авэрігўэ]

3. Спалучэнне літар” mn” вымаўляецца як [н]:alumno [алуно]

4. Літара “n” перад губнымі b, f, m, p, v передае гук “м“: un poco [ум поко], enfermo [эмфэрмо], un beso [ум бэсо] .

5. На стыках словаў канцавое “s” перад наступным пачатковым “r “ ператвараецца ў [р] las rosas [ла ррocac].

6. У рэдкіх выпадках канцовыя c, ch вымаўляюцца як [к]: Samaranch [самаранк].

7. Таксама рэдкае канцовае “m” вымаўляецца як [н]: album [альбун].

8. Націск у іспанскіх словах звычайна падае на другі склад ад канца, калі слова канчаецца на галосную і літары **n** ды **s.** Пры адхіленні ад гэтага правіла націск пазначаецца графічна, але не ў неазначальнай форме дзеясловаў.

Pagan, deberes, precioso, - у гэтых словах націск падае на другі склад ад канца.

Apagón, revés, reinó, remover –у гэтых словах націск падае на апошні склад.

Regímenes, característico- у гэтых словах націск падае на трэці склад ад канца.

Як карыстацца слоўнікам.

Словы ў слоўніку размешчаны ў алфавітным парадку. Дзеля зручнасці зваротныя дзеясловы пададзены адразу пасля незваротных: basar *vt* засноўваць, грунтаваць; basarse засноўвацца, грунтавацца.
Унутры рэестравага артыкулу рэестравае слова пазначаецца першай літарай
besar *vt* цалаваць; b.se г.зн. besarse цалавацца
Факультатыўныя варыянты падаюцца праз нахільную рысу.
comenzar ... рас/пачынаць г.зн. “распачынаць” альбо “пачынаць”
Амонімы падаюцца ў розных рэестравых артыкулах і пазначаны рымскімі лічбамі
amanecer *m* I світанне...
amanecer *impers* II світаць...
Розныя часціны мовы падаюцца пасля арабскіх лічбаў; сінонімы адасабляюцца коскамі; розныя значэнні-коскаю з кропкаю.
liquido 1. *adj* вадкі; 2. *m* вадкасць
fantastico *adj* фантастычны, уяўны; чароўны
Калі іспанскае слова самастойна не ўжываецца альбо не паддаецца перакладу яно падаецца пасля двухкроп’я:
repente *m*: de r. раптоўна, неспадзявана
Пры словах, што церпяць у якіх-небудзь сваіх формах арфаграфічныя змены гэтыя змены падаюцца.
lapiz (*pl* lapices) *m* г.зн,. у мн. л. слова мае форму lápices
jugar (ue; g/gu) 1*vt* г.зн. што ў пэўных формах “u” пераходзіць у”ue”, а для захавання гука”g “ з’яўляецца напісанне “gu“
У прыкладах рэестравае слова пазначаецца першай літарай mayor; m.es = mayores дарослыя.
Аднаскладовыя трохлітарныя словы падаюцца без скарачэнняў: sed *f* : tengo sed хачу вады.
Прыметнікі падаюцца ў форме м. р. адз. л. У прыкладах у прыметніках, што маюць форму ж. р. гэта звычайна пазначаецца канчаткам “**a**”: oscuro *adj* цёмны; незразумелы; ***selva o.a*** = selva oscura цёмны лес *(пра малазразумелае).*

Пасля кожнага рэестравага слова падаецца ягоная граматычная характарыстыка. Некалькі памет каля слова сведчаць, што яно ўжываецца ў розных граматычных катэгорыях: arte *m, f* г.зн., што слова arte ўжываецца ў мужчынскім і жаночым родзе.
Пры назоўніках ж. р., што пачынаюцца з націскной “a”, падаецца азнач. і неазнач. артыклі адз. л. el, un.
Слоўнік мае дадаткі: табліцу асноў няправільных дзеясловаў, спіс лічэбнікаў, табліцы спражэнняў правільных і няправільных дзеясловаў, узор спражэння зваротных дзеясловаў, спіс геаграфічных назваў і некаторых скарачэнняў.

**Лічэбнікі**

| Колькасныя лічэбнікі | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0 | cero | | | 30 | treinta | 200 | doscientos, -as |
| 1 | uno | 11 | once | 40 | cuarenta | 300 | trescientos, -as |
| 2 | dos | 12 | doce | 50 | cincuenta | 400 | cuatrocientos, -as |
| 3 | tres | 13 | trece | 60 | sesenta | 500 | quinientos, -as |
| 4 | cuatro | 14 | catorce | 70 | setenta | 600 | seicientos, -as |
| 5 | cinco | 15 | quince | 80 | ochenta | 700 | setecientos, -as |
| 6 | seis | 16 | diez y seis, dieciseis | 90 | noventa | 800 | ochocientos, -as |
| 7 | siete | 17 | diez y siete, diecisiete | 100 | ciento | 900 | novecientos, -as |
| 8 | ocho | 18 | diez y ocho, dieciocho | | | 1000 | mil |
| 9 | nueve | 19 | diez y nueve, diecinueve | | | 2000 | dos mil |
| 10 | diez | 20 | veinte | | | | |

21 veinte y uno, veintiuno; 22 veinte y dos, veintidós; 101 ciento y uno; 123 ciento veintitrés;
2000 dos mil; 10.000 diez mil; 1.000.000 un millón; 1.000.000.000 mil millones
2345 dos mil trescientos cuarenta y cinco
1/2 un medio; 1/3 un tercio; 2/3 dos tercios; 3/4 tres cuartas; 2,3 dos coma tres; dos y tres décimas; 6,01 seis coma cero uno; seis y una centésima

Іспанская граматыка разглядае парадкавыя лічэбнікі як прыметнікі.

| Парадкавыя лічэбнікі | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 0 | | | | | | | |
| 1º | primero | 11º | décimo primero | 30º | trigésimo | 200º | ducentésimo |
| 2º | segundo | 12º | décimo segundo | 40º | cuadragesimo | 300º | tricentésimo |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3º | tercero | 13º | décimo tercero | 50º | quincuagésimo | 400º | cuadringentésimo |
| 4º | cuarto | 14º | décimo cuarto | 60º | sexagésimo | 500º | quingentésimo |
| 5º | quinto | 15º | décimo quinto | 70º | septuagésimo | 600º | sexcentésimo |
| 6º | sesto | 16º | décimo sesto | 80º | octogésimo | 700º | septingentésimo |
| 7º | séptimo | 17º | décimo séptimo | 90º | nonagésimo | 800º | octingentésimo |
| 8º | octavo | 18º | décimooctavo | 100º | centésimo | 900º | nonigentésimo |
| 9º | noveno | 19º | décimo noveno | | | 1000º | milésimo |
| 10º | décimo | 20º | vigésimo | | | | |

1º primero, primer 3º tercero, tercer; 11 undécimo; 12 duodécimo; 19º decimonoveno, (-nono) 21º vigesimoprimero, (-primo); 22° vigesimosegundo;

1001° milésimo primero
2000° dos milésimo
10 000° diez milésimo
100 000° cien milésimo
1 000 000° millonésimo
1 000 000 000° mil millonésimo

**Формы і асновы дзеясловаў, што не супадаюць з асноваю інфінітыву. Гэтая таблічка карысная для пазнавання інфінітыву пададзеных дзеясловаў па якой-небудзь іхняй форме.**

| словаформа | дзеяслоў | словаформа | дзеяслоў | словаформа | дзеяслоў |
|---|---|---|---|---|---|
| abierto | abrir | hecho, hic-, hiz- | hacer | sep- | saber |
| anduv- | andar | hub- | haber | sient-, sint- | sentir |
| cabr- | caber | huel- | oler | son, soy | ser |
| caig-, cay | caer | iba, id, ido | ir | sup- | saber |
| cubierto | cubrir | muer-, muerto, mur- | morir | ten, teng-, tendr-, tien- | tener |
| cup- | caber | oid, oig-, oy- | oir | traig-, traj-, tray- | traer |
| de, den | dar | pid- | pedir | tuv- | tener |
| di | decir, dar | podr- | poder | va | ir |
| dic-, dicho | decir | pon, pondr-, pong- | poner | valg-, valdr- | valer |
| die-, dies- | dar | pud-, pued- | poder | vaya | ir |
| dig-, dij-, dir- | decir | puesto, pus- | poner | ve, veia | ir (ve), ver |
| doy | dar | quep- | caber | ven | ver, venir |
| duerm-, durm | dormir | querr-, quier-, quis- | querer | voy | ir |
| era, eras, es | ser | resuelto | resolver | vuelto, vuelv- | volver |
| escrito | escribir | ri- | reir | yazc-, yazg- | yacer |
| esté, estoy estuv- | estar | roto | romper | yendo | ir |
| fu, fuer-, fues- | ser, ir | sabr- | saber | -duj-, -duzc- | producir, etc -ducir: |
| ha, habr- | haber | sal, saldr- | salir | | |
| hag-, har- | hacer | sea, sed | ser | | |
| haya, he | haber | | | | |
| | | | | | |

Спіс памет

Іспанскія

| | | | |
|---|---|---|---|
| *adj* | adjetivo прыметнік | *pos* | posesivo прыналежны |
| *adv* | adverbio прыслоўе | *p.p* | participio pasado дзеяпрыметнік мінулага часу |
| *conj* | conjuncion спражэнне | *. prep* | preposicion прыназоўнік |
| *dem* | demostrativo указальны | *pron dem* | pronombre demostrativo указальны займеннік |
| *exclamat* | exclamativo клічны | *pron indef* | pronombre indefinido няпэўны займеннік |
| *f* | género femenino жаночы род | *pron interr* | pronombre interrogativo пытальны займеннік |
| *impers* | impersonal безасабовы | *pron neg* | pronombre negativo адмоўны займеннік |
| *indef* | indefinido неазначальны | *pron pers* | pronombre personal асабовы займеннік |

| | | | |
|---|---|---|---|
| *inf* | infinitivo інфінітыў | *pron pos* | pronombre posesivo прыналежны займеннік |
| *interj* | interjeccion выклічнік | *pron refl* | pronombre reflexivo зваротны займеннік |
| *interrog* | interrogativo пытальны | *pron rel* | pronombre relativo адносны займеннік |
| *irreg* | irregular<br>няправільны дзеяслоў | *sg* | singular адзіночны лік |
| *m* | género masculino мужчынскі род | *superlativo* | найвышэйшая ступень |
| *num* | numeral лічэбнік | *vi* | непераходны дзеяслоў |
| *part* | partícula часціца | *vt* | пераходны дзеяслоў |
| *pl* | plural множны лік | | |

Беларускія

| | | | |
|---|---|---|---|
| *адз* | адзіночны лік | *мн.л.* | множны лік |
| *він* | вінавальны склон | *м.р.* | мужчынскі род |
| *грамат* | граматычны тэрмін | *наз* | назоўнік |
| *дав* | давальны склон | *н.ф.дз.* | неазначальная форма дзеяслова |
| *ж.р.* | жаночы род | *спарт* | спартыўны тэрмін |
| *матэм.* | матэматычны тэрмін | | |

## Aa

**a** *prep* 1. *(з артыклем* el *утварае форму* al*)*; *( пры абазначэнні кірунку, месца)* у, да, за, на; ***ir a Mensk*** ехаць у Менск; ***estar a la mesa*** быць /сядзець за сталом; ***al sol*** на сонцы; 2. *(выражае адносіны, што перадаюцца па беларуску давальным склонам)* ***doy el lápiz a mi amigo*** даю аловак майму сябру; ***una carta a María*** ліст да Марыі; 3. *(выражае адносіны, што адпавядаюць беларускаму вінавальнаму склону, калі дапаўненне- асоба ці адушаўлёны прадмет)* ***querer a su hermanito*** любіць свайго браціка; 4.*(пра час)* у, да, а, праз; ***a las seis*** а шостай гадзіне, у шэсць гадзін; ***de tres a cuatro*** з трох да чатырох; ***a los diez dias*** праз дзесяць дзён; 5. *(пра цану)* па, за; ***a cien pesetas*** па / за сто песет; 6. *(афармляе катэгарычны загад)* ***¡a dormir!*** спаць!; ***¡a trabajar!*** працаваць!; 7. *(ва ўмоўных сказах)* калі, калі б; ***a no decirlo tú*** калі б не ты сказаў гэта; 8. ***al*** + *infinitivo перакладаецца дзеепрыслоўем альбо даданым сказам акалічнасці часу*; ***al llegar a Madrid*** прыехаўшы/ прыязджаючы ў Мадрыд, калі я /ты *і г.д.* прыехаў у Мадрыд; ***al oir esto*** пачуўшы гэта, чуючы гэта, калі я /ты/ ён *і г.д*. пачуў гэта; 9. *(уваходзіць у склад шматлікіх прыслоўных злучэнняў)* ***a la derecha*** справа, направа; ***a la izquierda*** злева, налева; ***a la española*** на іспанскі лад /манер; ***al lado*** побач; ***al fin*** урэшце; ***a lo largo de*** усцяж, уздоўж; ***a lo lejos*** удалечыні; ***al menos*** прынамсі; ***a menudo*** часта; ***al principio*** спачатку; ***a pie*** пешшу; ***al revés*** наадварот; ***a tiempo*** у час, своечасова; ***a veces*** часам

**abajo** *1adv* уніз, унізе; *2interj* ***¡a.!*** далоў!, прэч!

**abandonar** *vt* пакідаць; занядбаць

**abanico** *m* веер, спектр /*думак, палітычных плыняў*/

**abastecer** (zc) *vt* /de/ забяспечваць; даваць

**abedul** *m* бяроза

**abeja** *f* пчала

**abeto** *m* яліна, елка

**abierto** *1adj* адчынены; адкрыты; шчыры; *2p.p. да* abrir

**abnegación** *f* самаадданасць

**abnegado** *adj* самаадданы

**abogado** *m* адвакат

**abonar** *vt* выплочваць*(грошы)*, падпісваць *(на друк)*; угнойваць; ***a.se*** падпісвацца *(на друкаваныя выданні)*

**aborigen** *1adj* тутэйшы; *2m* тубылец, абарыген

**abrazar** (z/c) *vt* абдымаць, абняць

**abrazo** *m* абдымак

**abrigo** *m* паліто; прытулак; сховішча
**abril** *m* красавік
**abrir** (*p.p.* abierto) *vt* адчыняць *(дзверы і пад.)*, разгарнуць *(кнігу)*, расплюскаць вочы
**absoluto** *adj* поўны, абсалютны
**absurdo** *1adj* абсурдны, недарэчны; *2m* недарэчнасць, абсурд
**abuela** *f* бабуля, баба
**abuelo** *m* дзед, дзядуля; ***abuelos*** дзяды; дзядуля і бабуля
**abundante** *adj* багаты, шматлікі, аквітны
**aburrido** *adj* сумны, нудны, нецікавы
**aburrimiento** *m* сум, нуда; прыкрасць, агіднасць
**aburrirse** сумаваць, нудзіцца
**acá** *adv* тут; ***¡ven a.!*** хадзі сюды!
**acabar** *1vt* канчаць; 2*vi* канчацца; ***a. de*** + *inf ( перадае дзеянне, якое толькі шт скончылася)*; ***acabamos de cenar*** мы толькі што павячэралі
**academia** *f* акадэмія; вучэльня *(у Іспаніі)*
**acariciar** *vt* лашчыць, песціць, гладзіць
**acaso** *adv* магчыма, выпадкам; ***a. tiene Usted***... у Вас часам няма..; ***por si*** a. на ўсялякі выпадак
**accidente** *m* здарэнне, няшчасны выпадак; ***a. de circulación*** дарожная аварыя
**acción** *f* дзеянне, учынак, акцыя
**aceite** *m* алей /*і мінеральны*/
**aceituna** *f* аліўка, масліна
**acelerar** *vt* паскараць, прыспешваць
**aceptar** *vt* прымаць; пагаджацца; ухваляць
**acera** *f* ходнік, тратуар
**acercar** (c/qu) *vt* набліжаць; ***a.se*** а набліжацца, падыходзіць да
**acero** *1m* сталь; *2adj* сталёвы, стальны
**acertar** (ie) *vt* пацэліць, трапляць; адгадваць; удала зрабіць; трапна сказаць
**ácido** 1*adj* кіслы; *2m* кіслата
**aclarar** *vt* высвятляць, рабіць зразумелым
**acompañado** *adj* (de) у суправаджэнні *(каго-, чаго-н.)*
**acompañante** *m* спадарожны, спадарожнік
**acompañar** *vt* праводзіць, суправаджаць; акампанаваць
**aconsejar** *vt* раіць, радзіць, даваць параду
**acontecimiento** *m* падзея, здарэнне
**acordarse** (ue) (de) узгадваць, успамінаць
**acortarse** меншаць, скарачацца
**acostarse** (ue) класціся; класціся спаць
**acostumbrado** *adj* звычны, прывычны; ***estar a. a*** мець звычку, прывыкнуць
**acostumbrarse** прывыкаць, прызвычайвацца
**actitud** *f* стаўленне, пазіцыя, адносіны
**actividad** *f* дзейнасць, актыўнасць; ***a.es*** мерапрыемствы
**activo** *adj* дзейны, актыўны, энергічны
**acto** *m* акт; дзеянне, учынак; цырымонія; ***el a. de inauguración*** цырымонія адкрыцця; ***en el a.*** неадкладна, адразу ж, тут жа
**actor** *m* актор, артыст
**actriz** (*pl* actrices) *f* акторка, актрыса, артыстка
**actual** *adj* цяперашні, сучасны, актуальны
**actualidad** *f* сучаснасць; ***en la a***. зараз, у цяперашні момант
**actualmente** *adv* зараз, цяпер
**actuar** *vi* дзейнічаць; іграць *(ролю, на сцэне)*
**acuático** *adj* водны, вадзяны; ***deporte a***. водны від спорту
**acudir** *vi* прыходзіць, з'яўляцца; ісці
**acuerdo** *m* пагадненне, дамова; ***estar de a. con*** быць згодным з, быць у адпаведнасці з; ***¡de a.!*** згода!, добра!; ***ponerse de a. con*** дамаўляцца, пагаджацца з
**acusación** *f* абвінавачанне
**acusar** *vt* вінаваціць, абвінавачваць
**acusativo** *m* вінавальны склон
**adecuado** *adj* адпаведны
**adelantar** *1vt* рухаць наперад; паскараць; абганяць; выперадзіць; *2vi* мець поспехі; спяшацца; ***a.se*** выступаць наперад, выходзіць наперад
**adelante***1adv* наперад, папераддзе; *2interj* ***¡a.!*** a) наперад!; b) заходзьце!
**adelanto** *m* дасягненне, прагрэс
**además** *1adj* акрамя таго, у дадатак; *2prep*. ***a. de*** акрамя /таго, што.../

**adiós** *1interj* бывай/це!; *2m* развітанне
**adjetivo** *m* прыметнік
**admirable** *adj* выдатны, чароўны, цудоўны, дзівосны
**admiración** *f* захапленне, здзіўленне
**admirador** *m* чэснік, паклоннік
**admirar** *vt* захапляцца, дзівіцца
**admitir** *vt* прымаць /*куды-н*/, дапускаць, прызнаваць
**adonde** *adv* дзе, куды
**adoptar** *vt* ухваляць, прымаць; усынаўляць
**adornado** *adj* аздоблены, упрыгожаны
**adornar** *vt* аздабляць, упрыгожваць
**adorno** *m* аздабленне, упрыгожанне
**adquirir** (ie) *vt* набываць; ***a. fama*** набыць вядомасць
**aduana** *f* мытня
**aduanero** *1m* мытнік; *2adj* мытны
**adulto** *1adj* дарослы; *2m* дарослы *(пра чалавека)*
**adverbio** *m* прыслоўе
**adversario** *m* праціўнік, супернік
**aeródromo** *m* аэрадром
**aeropuerto** *m* аэрапорт
**afán** *m* прага, палкае памкненне; стаpанне
**afeitar** *vt* галіць; ***a.se*** галіцца
**aficionado** *1adj* аматарскі; *2m* аматар; ***ser a***. а захапляцца *чым-н*., быць аматарам *чаго-н*.
**afilado** *adj* востры, навостраны
**afilar** *vt* вастрыць
**afirmación** *f* сцверджанне, запэўненне
**afirmar** *vt* сцвярджаць, запэўніваць; мацаваць, умацоўваць
**afirmativo** *adj* сцвярджальны; станоўчы
**afortunado** *adj* шчаслівы, якому пашанцавала
**africano** *1adj* афрыканскі; *2m* афрыканец
**agencia** *f* агенцтва; ***a. de viajes*** бюро падарожжаў, турыстычная кампанія
**agilidad** *f* спрыт
**agitado** *adj* неспакойны, усхваляваны
**agitar** *vt* хваляваць; махаць *(рукою, сцягам)*; варушыць
**agosto** *m* жнівень
**agradable** *adj* прыемны
**agradecer** (zc) *vt* (de) дзякаваць
**agradecido** *adj* удзячны
**agrario** *adj* аграрны, зямельны
**agregar** (g/gu) *vt* дадаваць
**agrícola** *1adj* сельскагаспадарчы; ***trabajos a.s*** палявыя работы; *2m* землеўладальнік
**agricultor** *m* земляроб, селянін
**agricultura** *f* сельская гаспадарка; земляробства, паляводства
**agrio** *adj* кіслы
**agrónomo** *m* аграном
**agrupar** *vt* злучаць, яднаць
**agua** *f* (el, un) вада; ***a. potable*** пітная вада; ***a. dulce*** прэсная вада; ***a. mineral*** мінеральная вада; ***a. de Colonia*** адэкалон
**aguardar** *vt* чакаць
**agudo** *adj* востры; пранізлівы; звонкі *(голас)*
**aguja** *f* іголка; стрэлка *(гадзінніка і пад.)*; спічак
**agujero** *m* дзірка, адтуліна
**ahí** *adv* тут, сюды, там
**ahora** *adv* зараз, цяпер; ***a. mismo*** зараз жа, толькі што; ***a. bien*** значыцца так; ну, дык вось
**aire** I *m* паветра, вецер; ***al a. libre*** на вольным паветры
**aire** II *m* выгляд, знешнасць
**aislado** *adj* асобны, адзінокі, ізаляваны
**ajedrecista** *m, f* шахматыст, -ка
**ajedrez** *m* шахматы; ***jugar al a***. гуляць у шахматы
**ajeno** *adj* чужы, вольны /ад/
**ajo** *m* часнок; ***un diente de a***. зубок часнаку
**al =** (a+el) *(зліццё прыназоўніка* а *і артыкля* el*)* ***ir al bosque*** ісці ў лес; ***al*** + *infinitivo перадаецца дзеепрыслоўем ці дададзеным сказам*: ***al ver esto*** бачачы гэта *ці* убачыўшы гэта

**ala** *f* (el, un) крыло; фланг; брыль *(капелюша)*
**alarma** *f* (el, un) трывога, хваляванне, непакой
**alarmarse** непакоіцца, трывожыцца
**albañil** *m* муляр
**alcalde** *m* алькальд, войт, бурмістр; стараста *(вясковы)*
**alcanzar** (z/c) *vt* даганяць; дасягаць; хапаць, быць дастатковым; даставаць, дацягвацца
**aldea** *f* вёска, сяло
**aldeano***1adj* вясковы; *2m* вясковец, жыхар вёскі, селянін
**alegrar** *vt* радаваць, весяліць; ***a.se*** радавацца, цешыцца
**alegre** *adj* вясёлы, радасны
**alegremente** *adv* весела, радасна
**alegría** *f* радасць, весялосць
**alejarse** адыходзіць, аддаляцца
**alemán** *1adj* нямецкі; *2m* немец; нямецкая мова
**aleta** *f* плаўнік; ***a.s*** ласты
**álgebra** *f* (el, un) алгебра
**algo** *1pron. indef* нешта, штосьці, што-ніщто, сёе-тое; ***dijo a. pero no comprendí*** ён нешта сказаў, але я не зразумеў; *2adv (перад прыметнікам)* трохі, крышку; ***estaba a. nervioso*** ён трошкі нерваваўся
**algodón** *m* бавоўна; вата
**alguien** *prep. indef* нехта, хтосьці, хто-небудзь
**algún** *adj* (*скарот ад* alguno, *ужываецца перад наз. м. р.*) ***a. día*** калі-небудзь
**alguno** *1adj* які-небудзь, нейкі,некаторы; ***algunas veces*** часам, калі-нікалі; ***no hay motivo a***. няма ніякіх падстаў; ***decir algunas palabras*** сказаць колькі словаў; *2pron. indef.* хтосьці, штосьці, хто-небудзь, што-небудзь; ***¿ha venido a.?*** ці прыйшоў хто-небудзь? ***a.s*** некаторыя, адны
**alimentación** *f* харчаванне
**alimentar** *vt* карміць; сілкаваць; жывіць *(раку)*
**alimentario** *adj* харчовы
**alimento** *m* страва, ежа, харчаванне
**alisado** *adj* гладкі, прычэсаны
**aliviar** *vt* палягчаць, аблягчаць
**alivio** *m* палёгка
**alma** *f* (el, un) душа
**almacén** *m* магазін, крама; склад; ***los Grandes A.es*** універмаг
**almirante** *m* адмірал
**almohada** *f* падушка
**alquilar** *vt* наймаць /аддаваць у найм; ***a. una habitación*** наймаць/ здаваць пакой
**alquiler** *m* арэнда, пракат; плата за арэнду, кватэрная плата
**alrededor** *1adv* вакол, навокал, наўкола; прыблізна, каля; ***a. de cien personas*** каля ста асоб; *2m pl* ***a.es*** ваколіца, наваколле; ***en los a.es de*** у ваколіцы
**alto** *1adj* высокі; гучны, моцны; высокі *(пра гук)*; *2adv* высока; гучна; *3interj* ***¡a.!*** стой!
**altura** *f* вышыня; вяршыня
**alumbrar** *vt* асвятляць
**alumna** *f* вучаніца
**alumno** *m* вучань
**alunizaje** *m* пасадка на Месяц
**alzar** (z/c) *vt* узнімаць, падымаць; ***a.se*** узвышацца, высіцца; узнімацца, паўставаць *(супраць)*
**allá** *adv* там, туды; ***más a. de*** за, далей, па той бок; ***más a. del horizonte*** там, за даляглядам
**allí** *adv* там, туды; ***de a., desde a***. адтуль; ***por a***. там, на тым месцы
**ama** *f* (el, un) гаспадыня; ***a. de casa*** хатняя гаспадыня
**amanecer** I *m* світанне, світанак, досвітак; ***al a***. на досвітку, на світанку
**amanecer** II *impers* світаць, днець, развідняць; ***amanece*** світае, днее; ***amaneció muerto*** на досвітку ён быў мёртвы
**amante** *1adj* які любіць; *2m, f* каханы, каханая
**amar** *vt* кахаць, любіць, упадабаць
**amarillo** *adj* жоўты
**ambiente** *1adj* навакольны, акаляючы; ***medio a***. навакольны асяродак; *2m* асяродак, атмасфера
**ambulante** *adj* вандроўны, перасоўны
**amenaza** *f* пагроза
**amenazar** (con) *vt* пагражаць (*чым-н.*)
**americano** *1adj* лацінаамерыканскі; *2m* лацінаамерыканец
**amiga** *f* сяброўка; каханка

**amigo** *1adj* сяброўскі, дружалюбны; *2m* сябар, дружбак
**amistad** *f* сяброўства, дружба, таварышаванне
**amistoso** *adj* сяброўскі, прыязны
**amo** *m* гаспадар
**amor** *m* каханне; ***hacer el a***. займацца каханнем
**ampliar** *vt* пашыраць, павелічаць
**amplio** *adj* прасторны, шырокі, вольны
**análogo** *adj* падобны, адпаведны, аналагічны
**anciano** *1adj* стары, старадаўні; *2m* стары, стары чалавек
**ancho** *1adj* шырокі, прасторны; *2m* шырыня; ***tres metros de a***. шырынёю тры метры
**andaluz** (*pl* **-**ces) *1adj* андалузскі; *2m* андалузец, жыхар Андалузіі
**andamio** *m* рыштаванне; памост
**andar** *1vi* ісці, хадзіць; працаваць *(пра механізм)*; ***mi reloj anda bien*** мой гадзіннік ідзе правільна; *2m* хада; ход *(машыны)*
**andén** *m* перон, платформа
**anécdota** *f* анекдот; гісторыя; аповяд
**ángel** *m* анёл
**ángulo** *m* кут, вугал; ***á. recto*** просты вугал; ***á. obtuso*** тупы вугал; ***á. agudo*** востры вугал
**angustia** *f* скруха, маркота
**angustioso** *adj* маркотны, сумны, скрушны
**ánima** *f* (el, un) душа
**animación** *f* натхненне; ажыўленасць
**animado** *adj* ажыўлены, бадзёры; жывы, рухавы
**animal** *1adj* жывёльны, звярыны; *2m* звер, жывёліна; ***a. doméstico*** свойская жывёліна
**animalista** *m, f* анімаліст, -ка *(мастак, што малюе жывёл)*
**animar** *vt* натхняць, падбадзёрваць; ажыўляць; ***a.se*** ажыўляцца; натхняцца
**ánimo** *m* дух, мужнасць; ***¡á.!*** смялей!
**aniversario** *m* гадавіна, угодкі
**anoche** *adv* учора ўвечары, учора ўначы
**anochecer** I *m* змярканне, надвячорак; ***al a***. на змярканні
**anochecer** II (zc) *impers* змяркацца, вечарэць
**anonimato** *m* ананімнасць, невядомасць; ***pedir a***. пажадаць застацца неназваным
**anónimo** *adj* невядомы, безыменны, ананімны
**anotar** *vt* запісваць, пазначаць, рабіць нататкі
**ansia** *f* туга, трывога; прага
**antártico** *adj* антарктычны
**ante** *prep* перад; estaba ***a. el maestro*** ён стаяў перад настаўнікам; ***a todo*** перад усім ***¡Belarús a. todo!*** Беларусь перад усім!
**anteayer** *adv* заўчора
**antemano:** ***de a.*** загадзя, зараней
**anteojos** *m pl* акуляры
**anterior** *adj* пярэдні; папярэдні; ***el año a***. летась, леташні год
**antes** *1adv* раней, даўней; ***no lo sabía a***. я не ведаў гэтага раней; ***lo a. posible*** як мага раней; ***cuanto a***. як мага хутчэй, як мага раней; *2prep* ***a. de*** перш чым, раней чым, да таго як; ***a. de comer*** перад абедам, да таго як паабедаць
**antigüedad** *f* старажытнасць, антычнасць; стаж
**antiguo** *adj* старажытны, антычны, старадаўні; колішні, былы
**antorcha** *f* паходня; светач
**anular** *vt* ануляваць, адмяняць
**anunciar** *vt* абвяшчаць, паведамляць
**anuncio** *m* абвестка, паведамленне
**añadir** *vt* дадаваць
**año** *m* год; ***a. lectivo*** /***escolar*** навучальны год; ***a. luz*** светлавы год; ***el A. Nuevo*** Новы год
**apagar** (g/gu) *vt* тушыць, выключаць *(святло, рухавік)*; заглушаць *(голас)*; ***a.se*** гаснуць, патухаць
**aparato** *m* апарат, прылада; ***a. de radio*** радыёпрымач; ***estar al a***. быць ля тэлефона
**aparcar** (c/qu) *vt* ставіць на стаянку *(аўтамабіль)*
**aparecer** (zc) *vi* з’яўляцца, паказвацца
**apartamento** *m* кватэра
**aparte** *adv* асобна, убаку; ***a. de*** апрача, апроч, акрамя
**apasionar** *vt* захапляць, прыводзіць у захапленне; ***a.se*** захапіцца
**apearse** злазіць, спешвацца *(з каня)*; вылазіць, злазіць *(з транспарту)*
**apellido** *m* прозвішча

**apenas** *adv* ледзь; толькі з цяжкасцю, ледзьве
**apertura** *f* пачатак, адкрыццё *(спектаклю, выставы)*
**apetecer** (zc) *vt* хацець, хацецца, мець жаданне
**apetito** *m* апетыт; ***tener buen*** /***mal a***. мець добры /кепскі апетыт
**aplastar** *vt* расціскаць, плюшчыць; душыць *(рокаш)*
**aplaudir** *vt* пляскаць у ладкі, ухваляць, вітаць
**aplausos** *m pl* воплескі; ухваленне
**aplicación** *f* стараннасць, рупнасць; прымяненне
**aplicado** *adj* старанны, руплівы; дастасоўны *(пра навуку)*
**aplicar** (c/qu) *vt* прыкладаць; прымяняць; накладаць; скарыстаць
**apoderarse** завалодаць, захапіць
**aportación** *f,* **aporte** *m* унёсак, уклад *(у навуку і пад.)*
**apoyar** *vt* падтрымліваць; прыхіляць; ***a.se*** абапірацца
**apoyo** *m* падтрымка, дапамога; апора
**apreciar** *vt* ацэньваць; шанаваць, паважаць
**aprender** *vt* вучыць, вывучаць; ***a. una poesía*** вывучыць верш
**aprendiz** (*pl* **-**ces) *m* чаляднік, вучань
**apretar** (ie) *vt* ціснуць, сціскаць; ***a.se*** сціскацца; туліцца
**aprobar** (ue) *vt* ухваляць, даваць згоду; зацвярджаць /*закон*/
**aprovechar** *vt* скарыстаць, выкарыстаць
**aproximadamente** *adv* прыкладна, прыблізна
**aproximarse** набліжацца
**aptitud** *f* здольнасць; прыдатнасць
**apto** *adj* здольны; прыдатны
**apuntar** *vt* адзначаць; запісваць, занатоўваць; цэліць; паказваць /*пальцам*/
**aquel** *adj dem* (*f* aquella) той; ***a. hombre*** той мужчына; ***a. día*** у той дзень
**aquella** *pron. dem* тая; ***a. mujer*** тая жанчына
**aquello** *adj dem* тое; ***a. fue inolvidable*** тое было незабыўным
**aquí** *adv* тут, сюды; ***de a***., ***desde a***. адсюль; ***por a***. тут, па гэтым месцы; ***hasta a***. дасюль, дагэтуль; ***he a***. вось; ***he a. el libro*** вось кніга
**árabe** *1adj* арабскі; *2m* араб; арабская мова
**aragonés** *1adj* арагонскі; *2m* арагонец, жыхар Арагону
**arar** *vt* араць
**árbitro** *m* арбітр, суддзя
**árbol** *m* дрэва; ***á. frutal*** пладовае /садовае дрэва
**arco** *m* дуга; лук; смык; арка; ***a. iris*** вясёлка
**archivo** *m* архіў
**arder** *vi, vt* гарэць, палаць
**ardilla** *f* вавёрка
**arena** *f* пясок; арэна; ***grano de a***. пясчынка
**argentino***1adj* аргенцінскі; *2m* аргенцінец, жыхар Аргенціны
**argumento** *m* доказ, аргумант; сюжэт, змест *(твора)*
**arma** *f* (el, un) зброя; ***a.s*** герб
**armado** *adj* (con, de) узброены
**armamento** *m* узбраенне
**armar** *vt* узбройваць; аснашчаць; збіраць, складаць *(прыладу, механізм)*
**armario** *m* шафа
**armonía** *f* гармонія, сугучнасць; згода, лад
**aroma** *m* водар, пах
**arquitecto** *m* дойлід, архітэктар
**arquitectónico** *adj* архітэктурны
**arquitectura** *f* дойлідства, архітэктура
**arrancar** (c/qu) *vt* вырываць; адрываць; заводзіць *(рухавік)*; ***a. las hierbas malas*** палоць *(пустазелле)*
**arrastrar** *vt* цягнуць, валачы; ***a.se*** паўзці
**arreglar** *vt* ладзіць, прыбіраць, даводзіць да ладу
**arriba** *1adv* наверсе, наверх уверх; *de a*.; ***desde a***. зверху; ***hacia a***. наверх, уверх , угару; *2interj* ***¡a.!*** уставай! наперад!
**arriesgar** (g/gu) *vt* рызыкаваць; ***a. la vida*** рызыкаваць жыццём
**arrojar** *vt* кідаць, шпурляць, выкідаць
**arroyo** *m* ручай
**arroz** *m* рыс
**arruga** *f* маршчына, зморшчына; складка
**arruinar** *vt* руйнаваць, разбураць

**arte** *m,f* мастацтва; ***bellas a.s*** прыгожыя мастацтвы
**artesanía** *f* народныя рамёствы, народныя промыслы
**artesano** *m* рамеснік, народны майстар
**ártico** *adj* арктычны; ***círculo polar á***. паўночны палярны круг
**artículo** *m* артыкул; выраб, тавар; артыкль; ***a. determinado*** /***indeterminado*** азначальны/ неазначальны артыкль
**artificial** *adj* штучны
**artista** *m, f* мастак, артыст, артыстка
**artístico** *adj* мастацкі; артыстычны
**asaltar** *vt* нападаць, атакаваць, штурмаваць
**asalto** *m* напад, штурм
**ascensor** *m* ліфт, пад'ёмнік
**aseado** *adj* ахайны, акуратны
**asegurar** *vt* запэўніваць, сцвярджаць; умацоўваць, забяспечваць; страхаваць
**asesinar** *vt* забіваць
**asesinato** *m* забойства
**asesino** *m* забойца
**así** 1*adv* так, гэтак, гэткім чынам; ***a. como*** гэтак жа як і; ***a .a***. так сабе, дармá;
2*conj* ***a. que*** так што; як толькі
**asiento** *m* месца; ***tomar a***. сядаць
**asignatur**a *f* прадмет *(навучальны)*, курс навукі
**asimilar** *vt* засвойваць, асіміляваць
**asimismo** *adv* гэтаксама як, гэткім жа чынам
**asistir** *1vt* дапамагаць; *2vi* прысутнічаць
**asno** *m* асёл
**asociación** *f* асацыяцыя, супольнасць
**asomar** *vt* высоўваць, паказваць *(высунуўшы)*; ***a.se a*** высоўвацца, паказвацца
**asombrar** *vt* дзівіць, здзіўляць; ***a.se*** дзівіцца, здзіўляцца
**asombro** *m* здзіўленне, захапленне
**aspecto** *m* выгляд, аблічча
**aspirador** *m* пыласос
**aspirar** *vt* удыхаць; імкнуцца, спадзявацца
**astronomía** *f* астраномія
**asturiano** *1adj* астурыйскі; *2m* астурыец, жыхар Астурыі
**atacar** (c/qu) *vt* нападаць, атакаваць
**ataque** *m* напад, атака; прыступ *(хваробы)*
**atar** *vt* звязваць, прывязваць, завязваць
**atardecer** I *m* вечар, надвячорак; ***al a***. надвячоркам, на змярканні
**atardecer** II (zc) *impers* вечарэць,змяркацца
**atención** *f* увага; ***llamar la a***. прыцягваць увагу; ***prestar a***. надаваць увагу; ***acaparar la a***.
прыцягваць увагу, прыкаваць увагу
**atender** (ie) *vt* клапаціцца; надаваць увагу; абслугоўваць
**atentado** *m* замах *(тэрарыстычны)*
**atentamente** *adv* уважліва, пільна; пачціва, далікатна
**aterrizar** (z/c) *vi* прызямляцца, садзіцца *(пра самалёт)*
**atletismo** *m* лёгкая атлетыка
**atmósfera** *f* атмасфера
**atomizar** (z/c) *vt* распыляць; драбніць, раз'ядноўваць *(грамадства)*
**átomo** *m* атам
**atracción** *f* прывабнасць, прыцягальнасць
**atractivo** *1adj* прывабны, прыцягальны; *2m* прывабнасць; выдатнасць
**atraer** *vt* (*як* traer) вабіць, прыцягваць
**atrás** *adv* назад, ззаду; ***días a***. некалькі дзён таму
**atrasado** *adj* адсталы; стары, мінулы /*пра нумар газеты*/
**atrasar** *1vt* адкладваць, адтэрміноўваць; *2vi, **a.se*** спазняцца; адставаць
**atraso** *m* спазненне, адставанне; адсталасць
**atravesar** (ie) *vt* пераходзіць, перасякаць, пераплываць; працінаць, пратыкаць
**atreverse** (a) асмеліцца, адважыцца
**atribuir** (uy) *vt* (a) прыпісваць *(што-н. каму-, чаму-н.)*
**atroz** (*pl* atroces) *adj* жорсткі, люты, жахлівы
**audaz** (*pl* audaces) *adj* смелы, адважны
**audición** *f* слуханне, выслухоўванне
**aumentar** *1vt* павелічаць; *2vi* расці, павелічацца
**aumento** *m* рост, павелічэнне

**aun, aún** *adv* яшчэ; ***a. cuando*** нават калі, хоць бы і
**aunque** *conj* хоць, хаця; ***a***.+ *subjuntivo* хоць бы, нават калі
**auricular** *m* слухаўка *(тэлефонная і пад.)*
**ausencia** *f* адсутнасць
**auténtico** *adj* сапрўдны, аўтэнтычны
**autobús** *m* аўтобус
**automóvil** *m* аўтамабіль
**autopista** *f* шаша, аўтастрада
**autor** *m* аўтар, стваральнік, здзяйсняльнік; ***a. material*** непасрэдны выканаўца *(замаху і пад.)*
**autora** *f* аўтарка, стваральніца
**autoridad** *f* улада; аўтарытэт, уплыў; знаўца; ***a.es*** улады
**auxiliar** *adj* дапаможны; ***verbo a***. дапаможны дзеяслоў
**avance** *m* рух наперад, наступ, прасоўванне наперад
**avanzar** (z/c) *vi* рухацца наперад, прасоўвацца, наступаць
**avaro** *1adj* скупы, сквапны; *2m* скнара
**ave** *f* (el, un) птушка
**avenida** *f* праспект; ***a. F. Skaryna*** праспект Ф.Скарыны
**aventura** *f* прыгода; ***novela de a***. прыгодніцкі раман
**avergonzar** (ue;z/c) *vt* сароміць, дакараць; ***a.se*** саромецца
**avería** *f* аварыя, паломка, пашкоджанне
**averiar** *vt* пашкодзіць; ***a.se*** паламацца, сапсавацца, цярпець аварыю
**averiguar** (gu/gí) *vt* высвятляць, удакладняць, даведацца
**aviación** *f* авіяцыя
**aviador** *m* лётчык, авіятар
**avión** *m* самалёт
**avisar** *vt* паведамляць, папярэджваць, перасцерагаць
**ay** *interj* ай! ой!
**ayer** *adv* учора; ***de a***. учарашні; ***desde a***. з учарашняга дня
**ayuda** *f* дапамога, падтрымка
**ayudante** *m* памочнік, ад’ютант
**ayudar** *vt* дапамагаць
**ayuntamiento** *m* муніцыпалітэт, гарадская рада
**azafata** *f* сцюардэса, бортправадніца
**azar** *m* сляпы выпадак; ***al a***. наўдачу, як будзе
**azucar** *m* цукар; ***de a***. цукровы, цукарны
**azul** *adj* блакітны, сіні
**azulejo** *m* кахля, кафля; валошка, васілёк

## Bb

**bachillerato** *m* сярэдняя адукацыя
**bahía** *f* затока, бухта
**bailar** *vi,vt* скакаць, танчыць, танцаваць
**baile** *m* танец, скокі, баль; ***b. de máscaras*** баль-маскарад
**bajar** *1vt* апускаць, зніжаць; сходзіць; ***b. la escalera*** сыходзіць па лесвіцы; *2vi* выходзіць, вылазіць, злазіць; ***b. del tren*** злазіць з цягніка
**bajo** *1adj* нізкі, невысокі; нізкі, подлы; *2adv* нізка; ціха; *3prep* пад; ***b. la luna*** пад Месяцам; *4m* бас
**balcón** *m* балкон
**balón** *m* шар, мяч
**baloncesto** *m* баскетбол
**banco** *m* лаўка, лава; банк
**bandera** *f* сцяг, штандар; ***nuestra b. es blanca roja y blanca*** наш сцяг бел-чырвона- белы
**bañar** *vt* купаць; абмываць *(берагі)*; ***b.se*** купацца
**bañera** *f* ванна *(пасудзіна)*
**baño** *m* ванна; лазня; ***cuarto de b***. ванны пакой
**barato***1adj* танны; *2adv* танна
**barba** *f* барада
**bárbaro***1adj* варварскі; *2m* варвар
**barbudo** *adj* барадаты
**barco** *m* карабель, судна
**barrer** *vt* месці, падмятаць

**barrera** *f* бар’ер, перашкода
**barrio** *m* квартал, раён *(гораду)*
**barro** *m* гразь, гліна
**basar** *vt* засноўваць, грунтаваць; ***b.se*** засноўвацца, грунтавацца
**base** *f* аснова, падмурак, база; ***a b. de*** на падставе; ***a b. de carbón*** на аснове каменнага вугалю, з каменнага вугалю
**basta** *interj* ***¡b.!*** досыць! годзе!
**bastante** *1adj* дастатковы; *2adv* дастаткова, даволі
**bastar** *vi* быць дастатковым, хапаць
**basura** *f* смецце
**basurero** *m* сметнік
**bata** *f* халат
**batalista** *m* баталіст *(мастак, што малюе вайсковыя сцэны)*
**batalla** *f* бітва, змаганне, бой
**batería** *1f* акамулятар; *2m* бубнач *(музыка)*
**batir** *vt* біць, стукаць; ***b. un record*** пабіць рэкорд
**baya** *f* ягада
**beber** *vt, vi* піць; ***dar de b.*** паіць; даць напіцца
**bebida** *f* напой
**belaruso** *1adj* беларускі; *2m* беларус; беларуская мова
**bélico** *adj* ваенны, вайсковы
**belleza** *f* прыгажосць; прыгажуня
**bello** *adj* прыгожы, пекны
**beneficio** *m* выгода, прыбытак
**benemérito** *adj* заслужаны, ганаровы; ***La Benemérita*** *(мянушка жандармерыі ў Іспаніі)*
**benévolo** *adj* дабразычлівы
**besar** *vt* цалаваць; ***b.se*** цалавацца
**beso** *m* пацалунак
**bestia** *f* жывёліна, звер
**bibliófilo** *m* кнігалюб, бібліяфіл
**biblioteca** *f* бібліятэка; ***b. pública*** публічная/грамадзкая бібліятэка
**bibliotecaria** *f* бібліятэкарка
**bicicleta** *f* веласіпед, лісапет; ***montar en b***. ехаць на веласіпедзе /лісапеце
**bielorruso** → belaruso
**bien** I *adv* добра, ладна; ***bastante b***. даволі добра; ***si b***. хаця, хоць; ***ahora b***. ладна, добра; ***más b***. хутчэй, дакладней
**bien** II *m* дабро; ***b.es*** дабро, маёмасць, набытак
**bienestar** *m* дабрабыт
**bigote** *m* вус/ы
**billete** *m* білет; ***b. de ida y vuelta*** білет туды і назад
**bisabuela** *f* прабабуля
**bisabuelo** *m* прадзед; ***b.s*** прадзеды; прадзед і прабабуля
**bisonte** *m* зубр; бізон
**blanco** *1adj* белы, чысты; *2m* мішэнь, цэль
**blusa** *f* кохта, кофта
**boca** *f* рот; адтуліна; уваход; ***b. de metro*** уваход у метро
**boda** *f* вяселле
**bofetada** *f* аплявуха
**boina** *f* берэт
**bola** *f* шар; ***b. de nieve*** снежка, глыжка; ***jugar a las b.as de nieve*** гуляць у снежкі /глыжкі
**bolígrafo** *m* шарыкавая ручка
**boliviano** *1adj* балівійскі; *2m* балівіец, жыхар Балівіі
**bolsa** I *f* торба, сумка
**bolsa** II *f* біржа
**bolsillo** *m* кішэня
**bolso** *m* сумачка; школьны партфель; ***b. de viajes*** дарожная торба /сумка
**bomba** I *f* бомба, міна
**bomba** II *f* помпа
**bombardeo** *m* абстрэл, бамбардаванне
**bombilla** *f* лямпачка
**bondad** *f* дабрыня, ласкавасць; ***tenga la b. de*** будзьце ласкавы + *дзеяслоў*
**bondadoso** *adj* добры, ласкавы
**bonito** *adj* мажны, прыгожы *(не ўжываецца ў дачыненні да мужчын)*; ***una muchacha b.a*** прыгожая /прывабная дзяўчына

**bordado** *adj* нашываны, вышываны
**borde** *m* бераг, край
**bordo** *m* борт; ***a b. de*** на борце
**borrar** *vt* выціраць, сціраць *(напісанае, з памяці)*
**bosque** *m* лес
**bota** *f* чаравік; бот; ***b.s de fieltro*** валёнкі
**botánica** *f* батаніка
**bote** *m* лодка
**botella** *f* пляшка, бутэлька
**botón** *m* гузік; бутон, пупышка
**boxeo** *m* бокс
**brasileño** *1adj* бразільскі; *2m* бразілец, жыхар Бразіліі
**brazo** *m* рука *(ад пляча да ручыцы)*; ***bajo el b***. пад пахам; пад руку *(узяць каго-н.)*
**breve** *adj* сціслы, кароткі
**brillante** *adj* бліскучы, блішчасты, зіхоткі
**brillar** *vi* блішчаць, ззяць, зіхцець
**broma** *f* жарт; ***en b***. жартам, жартоўна
**bromear** *vi* жартаваць
**bronce** *m* бронза; ***de b***. бронзавы, з бронзы
**brote** *m* пупышка; парастак
**brutal** *adj* жорсткі, брутальны, люты
**brutalidad** *f* жорсткасць, лютасць, брутальнасць
**bruto** *adj* грубы, жорсткі; дурны
**bucear** *vt* ныраць, даваць нырца
**buen** *adj (скарот да* bueno, *ужываецца перад назоўнікамі м. р.)* добры; ***estar de b. humor*** быць у добрым настроі, быць у гуморы; ***¡b. viaje!*** шчаслівай дарогі!
**bueno***1adj* добры; карысны; ***tener buena salud*** мець добрае здароўе; ***la lluvia es buena para la cosecha*** дождж карысны для ўраджаю; *2adv* добра, ладна; *3interj* ну, вось
**bufanda** *f* шалік
**bujía** *f* свечка (*і аўтамабільная* )
**búlgaro** *1adj* балгарскі; *2m* балгарын; балгарская мова
**buque** *m* судна, карабель
**burlar** *vt* смяяцца, жартаваць; падманьваць, ашукваць; ***b.se de*** смяяцца з *каго-н.*, жартаваць
**burro** *m* асёл
**buscar** (c/qu) *vt* шукаць; ***ir a b. a*** ісці па *каго-*, *што-н.*
**butaca** *f* фатэль, крэсла
**buzón** *m* паштовая скрынка; ***echar una carta al b***. кідаць ліст у паштовую скрынку

## Cc

**caballería** *f* конніца, кавалерыя
**caballero** *m* вершнік, коннік; рыцар; кавалер; кабальера *(зваротак)*
**caballo** *m* конь
**caber** *vi, irreg* улазіць, змяшчацца, мець у сабе; ***no cabe duda*** няма ніякага сумнення
**cabeza** *f* галава; ***a la c.de*** на чале, паперадзе *(чаго-н.)*
**cabo** *m* мыс; канец; ***al c.de*** праз, цераз *(пра час- у мінулым)*; ***al fin y al c***. урэшце; ***llevar a c***. ажыццявіць, здзейсніць
**cabra** *f* каза
**cacao** *m* какава
**cada** *1adj indef* кожны, усялякі; ***c. día*** штодзень, кожны дзень; ***c. vez*** штораз; ***c. vez más*** усё болей; *2pron indef* ***c. uno*** кожны, усялякі
**cadáver** *m* труп
**cadena** *f* ланцуг; ***c. humana*** жывы ланцуг
**caer** *vi irreg* падаць; гінуць; трапляць *(у пастку)*; ***c. enfermo*** занядужаць, захварэць ***cae la noche*** вечарэе, надыходзіць ноч
**cafe** *m* кава *(напой)*; кофе *(расліна)*
**cafetera** *f* кававарка
**cafetería** *f* кавярня
**caida** *f* падзенне, паданне
**caja** *f* скрынка; дамавіна; каса; ***c. fuerte*** сейф
**cajero** *f* касір
**calamares** *m pl* (*sg* calamar) кальмары *(страва)*

**calcetín** *m* шкарпэтка; ***c.es*** шкарпэткі
**calcular** *vt* вылічаць, падлічваць, разлічваць; ***c.se en miles*** налічвацца тысячамі
**cálculo** *m* разлік, вылічэнне; ***c.s*** разлікі
**calendario** *m* каляндар
**calentar** (ie) *vt* грэць, награваць; пячы *(пра сонца)*
**calidad** *f* касць, уласцівасць; ***de c***. якасны, высокаякасны; ***en c. de*** як, у ролі *(пра функцыю)*
**caliente** *adj* гарачы
**calificar** (c/qu) *vt* вызначаць, называць, характэрызаваць
**calor** *m* цяпло, цеплыня, гарачыня; ***hace c.*** горача, спякотна; ***tengo c***. мне душна
**calumnia** *f* хлусня, паклёп
**caluroso** *adj* гарачы, спякотны; палымяны
**calzada** *f* шаша, аўтастрада
**calzado** *1adj* абуты; *2m* абутак
**calzar** (z/c) *vt* абуваць; насіць *(абутак*); ***c.se*** абувацца
**callar** *1vi* маўчаць; змоўкнуць; *2vt* замоўчваць
**callado** *adj* маўклівы
**calle** *f* вуліца; ***c. céntrica*** галоўная /цэнтральная вуліца
**callejero** *adj* вулічны
**cama** *f* ложак, пасцель; ***guardar c.*** ляжаць у ложку *(быць хворым)*
**cámara** *f* палата *(парламенту)*; ***c. fotográfica*** фотаапарат, фотакамера
**camarada** *m, f* таварыш
**camarera** *f* пакаёўка, служанка, афіцыянтка
**camarero** *m* слуга, афіцыянт
**camarógrafo** *m* кінаапературар
**camarote** *m* каюта
**cambiar** *vt* мяняць, змяняць; ***c.se*** мяняцца, змяняцца
**cambio** *m* змена, змяненне; ***en c***. наадварот; ***a c. de*** узамен, замест *(чаго-н.)*
**camello** *m* вярблюд
**caminar** *vi* ісці, крочыць
**camino** *m* дарога; ***ir c. de*** ісці ў
**camión** *m* грузавік
**camionero** *m* шафёр грузавіка
**camisa** *f* кашуля
**camiseta** *f* майка
**campamento** *m* табар, лагер, летнік
**campana** *f* звон *(інструмент)*
**campaña** *f* пара́, сезон; кампанія; ***c. electoral*** выбарчая кампанія
**campeón** *m* чэмпіён
**campeonato** *m* чэмпіянат
**campesino** *1adj* сялянскі, вясковы; *2m* селянін
**campo** *m* поле, ніва; пляцоўка, спартыўнае поле; галіна *(дзейнасці)*; вёска, сельская мясцовасць, сельская гаспадарка; ***c.de fútbol*** футбольнае поле; ***en el c***. у вёсцы; ***en el c. de*** у галіне ***чаго-н***.
**canadiense** *1adj* канадскі; *2m* канадзец, жыхар Канады
**canal** *m* канал, канава; праліў, пратока
**canalla** *m* сволач, нягоднік
**canciller** *m* канцлер; міністр замежных спраў
**canción** *f* песня
**cancionero** *m* спеўнік
**candidato** *m* кандыдат
**cansado** *adj* стомлены, змораны; ***estar c***. быць стомленым
**cansancio** *m* стома, стомленасць
**cansar** *vt* стамляць; надакучваць; мардаваць; ***c.se*** стамляцца, змарыцца
**cantar** *vi, vt* спяваць
**cantaro** *m* збан (*вялікі*); ***llover a c.s*** ліць як з вядра (*пра дождж*)
**cantidad** *f* колькасць
**canto** *m* спеў, спевы, песня
**caña** *f* чарот, трыснёг; ***c. de azúcar*** цукровы трыснёг
**cañaveral** *m* зараснік трыснягу /чароту; ***C***. Канавэрал *(мыс у Фларыдзе, ЗША*; *там месціцца касмадром )*
**cañón** *m* ствол, руля; гармата; каньён *(глыбокая доўгая цясніна)*
**capa** *f* плашч; капа; пласт
**capacidad** *f* здольнасць; ёмістасць, змяшчальнасць

**capaz** (*pl* capaces) *adj* здольны, здатны; ***es una chica c***. яна здольная дзяўчына;
***ser c. de todo*** быць здатным на ўсё
**capital** *1adj* галоўны; ***pena c***. пакаранне смерцяй; *2m* капітал, маёмасць; *3f* сталіца
**capitán** *m* капітан
**capítulo** *m* раздзел *(кнігі)*
**capricho** *m* капрыз, прыхамаць
**caprichoso** *adj* капрызны, капрызлівы
**capturar** *vt* захапіць, браць у палон
**cara** *f* твар, аблічча, фасад; бок *(аркуша, манеты)*
**carabela** *f* каравэла (*тып судна*)
**carácter** *m* (*pl* caracteres) характар, стыль; літара
**caramelo** *m* цукерка, карамель
**carbón** *m* вугаль; ***c. de piedra*** каменны вугаль
**cárcel** *m* вязніца, турма; ***c. del pueblo*** народная турма *(памяшканне, у якім байцы нацыянальна-вызвольных рухаў трымаюць палонных)*
**carga** *f* груз, цяжар; зарад
**cargar** (g/gu) *vt* грузіць, нагружаць; зараджаць
**cargo** *m* пагрузка; цяжар, вага; пасада
**cariño** *m* ласка, пяшчота; замілаванасць, любасць; ***le tengo mucho c***. я яго моцна люблю
**cariñoso** *adj*пяшчотны, ласкавы
**carne** *f* мяса; цела, плоць; мякаць *(плоду)*
**carnet** *m* пасведчанне асобы
**caro***1adj* дарагі, каштоўны; дарагі, любы; *2adv* дорага; ***es muy c***. гэта надта дорага
**carpintero** *m* цясляр, цесля
**carrera** *f* бег, гонка; прафесія, кар'ера
**carreras** *f pl* гонкі; скачкі
**carrete** *m* шпуля; стужка *(фота)*
**carretera** *f* шаша, аўтастрада
**carro** *m* калёсы
**carta** *f* ліст; ***escribir*** /***recibir una c***. напісаць /атрымаць ліст
**cartearse** перапісвацца
**cartel** *m* афіша, плакат
**cartera** *f* партфель
**cartero** *m* лістаносец, паштавік, паштальён
**cartilla** *f* лемантар; картка
**casa** *f* хата, дом, жытло, кватэра; ***c. de campo*** лецішча; ***ir a c. de*** ісці да *каго-н*.;
***voy a c. de María*** я іду да Марыі; ***a c***. дамоў, дадому***; en c***. дома
**casada** *adj* замужняя; ***estar c***. быць замужам
**casado** *adj* жанаты; ***estar c***. быць жанатым
**casarse** жаніцца; ісці замуж
**casi** *adv* амаль
**caso** *m* выпадак, падзея, здарэнне; ***en todo c***. прынамсі; ***el c. es que*** справа ў тым, што;
***hacer c. de*** слухаць *каго-н*., звяртаць увагу на; ***no hacer c. d***e не слухаць, не звяртаць увагі на *(каго-, што-н.)*; ***en este c***. у гэтым разе
**castaño** *adj* каштанавы
**castellano** *1adj* касцільскі; *2m* касцілец; касцільская /іспанская мова
**castillo** *m* замак
**casual** *adj* выпадковы
**casualidad** *f* выпадковасць; ***por c***. выпадкова
**catalán** *1adj* каталанскі; *2m* каталанец, жыхар Каталоніі/ Каталуны; каталанская мова *(з канца 1997г адзіная афіцыйная ў Каталуны)*
**catarata** *f* вадаспад
**catástrofe** *f* катастрофа
**catedral** *f* збор, сабор
**categoría** *f* катэгорыя, разрад; становішча; ***de c***. важны, высокапасадны
**católico** *1adj* каталіцкі; *2m* каталік
**catorce** *num* чатырнаццаць, чатырнаццаты
**causa** *f* прычына; справа; ***a c. de*** з прычыны, з-за
**causar** *vt* прычыняць, выклікаць
**cavar** *vt* капаць
**caza** *f* паляванне
**cazador** *m* паляўнічы, мыслівец
**cazadora** *f* куртка

**cazar** (z/c) *vt* паляваць; упаляваць
**cebolla** *f* цыбуля
**ceder** *vt* саступаць, паддавацца, аддаваць; перадаваць
**cédula** *f* квітанцыя, пасведчанне, цыдулка
**ceja** *f* бровы; ***c.s*** бровы
**celda** *f* цэля, камера
**celebrar** *vt* святкаваць, адзначаць; праводзіць *(сход і пад.)*; ***c.se*** адбывацца, праходзіць
**célebre** *adj* славуты, вядомы, слынны
**cementerio** *m* могілкі
**cena** *f* вячэра; ***c. de gala*** урачыстая вячэра
**cenar** *vi, vt* вячэраць
**centenar** *m* сотня
**centenario** *m* стагоддзе, сотыя ўгодкі
**central** *1adj* цэнтральны; *2f* электрастанцыя; галоўная управа; ***c. eléctrica*** электрастанцыя; ***c. termonuclear*** ядзерная /атамная электрастанцыя
**centro** *m* сярэдзіна, цэнтр; установа
**cepillo** *m* шчотка; гэблік, рубанак; ***c. de dientes*** зубная шчотка
**cerámica** *f* кераміка
**cerca** *1adv* блізка, паблізу; блізу, прыблізна; *2prep* ***c. de*** блізка, каля, ля; ***c. de la plaza*** каля плошчы; ***de c***. зблізу
**cerco** *m* круг; аблога, акружэнне
**cerdo** *m* свіння; ***carne de c***. свініна
**cereza** *f* чарэшня *(ягада)*; ***c.s*** чарэшні
**cerillas** *f pl* запалкі
**cero** *m* нуль; ***ser c. a la izquierda*** быць нулём без палачкі, быць нікчэмнасцю
**cerrar** (ie) *vt* зачыняць; заплюскаць (*вочы*); загарнуць *(кнігу)*
**cerveza** *f* піва
**cesar** *vi* канчаць; канчацца, спыняцца
**cesta** *f* кошык, кош
**chaleco** *m* камізэлька; ***c. antibalas*** куленепрабівальная камізэлька
**chaqueta** *f* пінжак
**charco** *m* лужына, калюга
**charla** *f* размова, гутарка
**charlar** *vi* размаўляць, гутарыць
**chatarra** *f* металічнае ламачча
**chato** *adj* кірпаты; ***la nariz c.a*** кірпаты нос
**chaval** *m* хлопец
**cheque** *m* чэк; ***c. de viaje*** акрэдытыў
**chequeo** *m* абследаванне, праверка *(медычная)*
**chica** *f* дзяўчынка, дзяўчына
**chicle** *m* жуйка
**chico** *1adj* маленькі; *2m* хлопчык, дзіця
**chileno** *1adj* чылійскі; *2m* чыліец, жыхар Чылі
**chino** *1adj* кітайскі; *2m* кітаец, жыхар Кітаю; кітайская мова
**chiste** *m* жарт, досціп
**chocar** (c/qu) *vi* сутыкацца, ударацца; шакаваць, здзіўляць
**chocolate** *1adj* шакаладны *(пра колер)*; *2m* шакалад
**chófer** *m* шафёр
**choque** *m* удар, штуршок; сутычка
**chorizo** *m* каўбаса /*з перцам*/
**chuleta** *f* катлета; шпаргалка
**ciclismo** *m* веласіпедны спорт
**ciclista** *m, f* веласіпедыст, -ка
**ciclo** *m* цыкл, перыяд часу
**ciclomotor** *m* мапед
**ciego** *adj, m* сляпы, невідушчы
**cielo** *m* неба
**cien** *num* (*скарот да* ciento, *ужываецца перад назоўнікамі і словам* mil) сто ***c. libros*** сто кніг; ***c. mil*** сто тысяч
**ciencia** *f* навука; ***c. ficción*** навуковая фантастыка
**científico** *1adj* навуковы; *2m* навуковец, вучоны
**ciento** *num* сто, сотня; ***el veinte por c***. дваццаць ад соткі, дваццаць працэнтаў
**cierto** *adj* дакладны; пэўны, нейкі; ***es c***. гэта так, гэта праўда; ***hablar con cierta seguridad***

гаварыць з нейкай упэўненасцю
**cifra** *f* лічба
**cigarrillo** *m* цыгарэта
**cigüeña** *f* бусел
**cima** *f* верхавіна, вяршыня
**cinco** *adj num* пяць; пяты *(старонка, дата)*
**cincuenta** *adj num* пяцьдзесят; пяцідзесяты
**cine** *m* кіно; кінатэатр; ***c. sonoro*** гукавое кіно
**cinta** *f* стужка; касьнік
**cintura** *f* талія; пояс
**cinturón** *m* папруга, пояс, рэмень, пас; ***c. de seguridad*** пояс /пас бяспекі
**círculo** *m* гурток, суполка; круг; ***c. polar*** палярны круг
**cirujano** *m* хірург
**cisne** *m* лебедзь
**cita** *f* спатканне
**citar** *vt* упамінаць, згадваць, спасылацца; выклікаць у суд
**ciudad** *f* горад
**ciudadano** *m* грамадзянін, гараджанІн
**civil** *adj* цывільны, грамадзянскі
**civilización** *f* цывілізацыя
**clandestinidad** *f* падполле
**clandestino** *adj* падпольны
**claridad** *f* яснасць; святло
**claro** *adj* светлы, чысты; ясны, зразумелы; ***¡c.!*** вядома!
**clase** *f* клас; урок; кшталт, від; ***toda c. de*** самыя розныя
**clásico** *1adj* класічны; *2m* класік
**clausura** *f* закрыццё *(выставы, мерапрыемства і пад.)*
**clausurar** *vt* зачыняць, закрываць *(выставу, мерапрыемства і пад.)*
**clavel** *m* гваздзік
**clavo** *m* цвік; гваздзіка *(спецыя)*
**clima** *m* клімат; ***c. moderado*** умеркаваны клімат
**clínica** *f* клініка, лякарня
**cobarde** *1adj* баязлівы; *2m* баязлівец
**cobrar** *vt* зарабляць, атрымліваць *(грошы)*; збіраць *(падатак)*
**cobre** *m* медзь; ***de c***. медны
**cocina** *f* кухня *(і як набор страў)*; пліта; ***c. de gas*** газавая пліта; ***c. eléctrica*** электрычная пліта
**cocinar** *vt* варыць, гатаваць страву
**cocinera** *f* кухарка
**cocinero** *m* кухар, повар
**cocodrilo** *m* кракадзіл
**coche** *m* карэта; легкавы аўтамабіль; ***c. bomba*** аўтамабіль-бомба, аўтамабіль, наладаваны выбухоўкаю; ***c. cama*** спальны вагон; ***c.de línea*** рэйсавы аўтобус
**coger** (g/j) *vt* (*1 а. адз. л.* cojo*)* браць, хапаць; збіраць *(садавіну)*
**cohete** *m* ракета
**cojear** *v* кульгаць
**cojo** *adj* кульгавы
**col** *f* капуста
**cola** I *f* клей
**cola** II *f* хвост; чарга; ***hacer c***. стаяць у чарзе; ***tomar c***. стаць у чаргу
**colaboración** *f* супрацоўніцтва
**colaborador** *m* супрацоўнік; сааўтар
**colaborar** *vi* супрацоўнічаць
**colchón** *m* матрац
**colección** *f* збор, калекцыя
**coleccionar** *vt* збіраць калекцыю
**colectivo** *1adj* супольны, калектыўны; *2m* калектыў
**colegio** *m* школа, калеж *(у Іспаніі)*
**colgar** (ue; g/gu) *1vt* вешаць; *2vi* вісець
**colina** *f* пагорак
**colinoso** *adj* пагоркавы
**colocar** (c/qu) *vt* размяшчаць, ставіць; уладкоўваць *(на працу)*; ***c.se*** уладкоўвацца *(на працу)*

**colombiano** *1adj* калумбійскі; *2m* калумбіец, жыхар Калумбіі
**colonia** *f* калонія
**color** *m* колер; ***de c***. каляровы; ***¿de qué c. es..?*** якога колеру...?
**columna** *f* калона, слуп; слупок; ***c. vertebral*** хрыбетнік, пазваночны слуп
**columpiarse** гушкацца на арэлях, гутатацца
**columpio** *m* арэлі
**coma** *f* коска
**combate** *m* бой, змаганне
**combatiente** *m* ваяр, баец, салдат
**combatir** *vi* змагацца, біцца
**combativo** *adj* баявы
**combinación** *f* спалучэнне, камбінацыя
**combinar** *vt* спалучаць, злучаць, камбінаваць
**combustible** *1adj* палкі, які гарыць; *2m* паліва
**comedia** *f* камедыя
**comedor** *m* страўня, сталоўка
**comentar** *vt* тлумачыць, каментаваць
**comentario** *m* каментар, тлумачэнне
**comenzar** (ie; z/c) *1vt* рас/пачынаць; *2vi* рас/пачынацца
**comer** *1vt* есці; *2vi* абедаць, харчавацца
**comercial** *adj* гандлёвы
**comerciante** *m* гандляр, камерсант
**comercio** *m* гандаль; крама
**comestible** *1adj* ядомы; *2m* ***c.s*** харчовыя прыпасы, харчы
**cometa** *1m* камета; *2f* паветраны змей; ***volar la c***. запусціць паветраны змей
**cometer** *vt* здзейсніць; зрабіць *(памылку)*; учыніць *(злачынства)*; ***c. crimen*** учыніць злачынства
**comida** *f* страва, ежа, абед
**comienzo** *m* пачатак; ***al c***. напачатку
**comillas** *f pl* двухкоссе; ***entre c***. у двухкоссі
**comisaría** *f* пастарунак, паліцэйскі участак
**comisión** *f* камісія
**comité** *m* камітэт
**como** *1adv* як, якім чынам, як, быццам; ***sordo c. una tapia*** глухі як пень; у ролі, як; ***trabajar c***. /***de entrenador*** працаваць трэнерам: *2conj* бо, таму што, паколькі; ***c. ya era tarde*** паколькі ўжо было позна; ***c. si*** (*патрабуе* subjuntivo) як быццам; ***c. si tal cosa*** як быццам нічога і не было;
**cómo** *adv interr., exclamat.* як? які? ***¿c. estás?*** як жывеш?; ***¿c. es el chico?*** як выглядае хлопчык?; ***¿c. no?*** хіба не?
**comodidad** *f* зручнасць, выгода
**cómodo** *adj* зручны, выгодны, ёмкі, камфортны
**compadecer** (zc) (de) *vt* спачуваць, спагадаць
**compaginar** *vt* спалучаць
**compañero** *m* сябра; ***c. de trabajo*** калега
**compañía** *f* таварыства, кампанія
**comparación** *f* параўнанне; ***grados de c***. *грамат*. ступені параўнання
**comparar** *vt* параўноўваць
**compartir** *vt* дзяліць, падзяляць *(думкі, меркаванні)*
**compatriota** *m, f* суайчыннік, суайчынніца
**competición** *f* спаборніцтва, канкурэнцыя; ***c.es deportivas*** спартыўныя спаборніцтвы
**complejo** *1adj* складаны, заблытаны; *2m* комплекс, сукупнасць
**complemento** *m* дадатак, дапаўненне; *грамат*. дапаўненне; ***c. circunstancial*** *грамат*. акалічнасць; ***c. directo*** прамое дапаўненне; ***c. indirecto*** ускоснае дапаўненне
**completamente** *adv* цалкам, цалкавіта, зусім
**completar** *vt* канчаць, завяршаць; камплектаваць
**completo** *adj* поўны, цэлы
**complicado** *adj* складаны
**complot** *m* змова
**componer** *vt* (*як* poner) складаць, пісаць *(твор)*; складаць, збіраць
**composición** *f* складанне, склад, твор, кампазіцыя
**compositor** *m* кампазітар
**compra** *f* пакупка, набытак; ***ir de c.s*** ісці ў краму
**comprar** *vt* купляць, набываць
**comprender** *vt* разумець

**comprensión** *f* разуменне
**comprobar** (ue) *vt* пацвярджаць, даказваць; правяраць
**compuesto** *1adj* складаны, састаўны; *2 p. p. да* componer
**común** *adj* агульны, супольны; звычайны
**comunicación** *f* паведамленне, вестка; сувязь, зносіны
**comunicar** (c/qu) *vt* паведамляць, інфармаваць; злучаць; ***c.se mediante el lenguaje*** паразумецца /зносіцца праз мову; ***c. ambas ciudades*** злучаць/звязваць абодва гарады
**comunismo** *m* камунізм
**comunista** *1adj* камуністычны; *2m, f* камуністы, камуністая, камуніст,-ка
**con** *prep* з, разам з; ***iba c. su amiga*** яна ішла са сваёй сяброўкаю; ***un libro c. dibujos*** кніжка з малюнкамі; *(перадае адносіны, што па- беларуску выражаюцца творным склонам)*; ***escribir c. lapiz*** пісаць алоўкам; ***partir leña c. hacha*** калоць дровы сякераю; /*выражае спосаб дзеяння*/; ***escuchamos c. interés*** слухаем з цікавасцю; ***c. mucho gusto*** з вялікім задавальненнем; ***c. motivo de*** з нагоды; ***felicitar c. motivo de la fiesta*** віншаваць са святам
**conceder** *vt* даваць, надаваць; узнагароджваць; дазваляць
**concepto** *m* ідэя, думка, меркаванне; паняцце
**concesión** *f* саступка; канцэсія
**conciencia** *f* сумленне, сведамасць; прытомнасць
**concierto** *m* канцэрт
**concluir** (uy) *vt* канчаць; рабіць выснову
**conclusión** *f* выснова, заключэнне
**concurso** *m* тлум; дапамога, садзеянне; конкурс
**conde** *m* граф
**condesa** *f* графіня
**condecoración** *f* узнагарода
**condecorar** *vt* узнагароджваць
**condenar** *vt* асуджаць, судзіць, прысуджаць *(да пакарання)*
**condición** *f* умова; становішча
**condicional** *adj* умоўны; ***modo c***. *грамат*. умоўны лад
**conducir** (zc) *1vi, irreg* весці *(пра дарогу)*; *2vt* весці, кіраваць *(машынаю)*
**conducta** *f* паводзіны
**conductor** *m* шафёр; кандуктар
**conejo** *m* трус
**confederación** *f* канфедэрацыя
**conferencia** *f* нарада, канферэнцыя; лекцыя, даклад; ***dar c***. чытаць лекцыю
**confesar** (ie) *1vt* прызнаваць *(памылку, віну)*; *2vi* прызнавацца
**confianza** *f* давер
**confiar** *1vi* верыць, спадзявацца; *2vt* даручаць
**confirmar** *vt* пацвярджаць
**conforme** *adj* згодны, адпаведны; ***c. a*** у адпаведнасці з, згодна з
**confundir** *vt* блытаць, бянтэжыць
**confusión** *f* блытаніна, збянтэжанасць; разгубленасць
**congreso** *m* з’езд, кангрэс; ***C. de Diputados*** Кангрэс Дэпутатаў *(ніжняя палата іспанскага парламенту)*
**conjugación** *f* спражэнне
**conjugar** (g/gu) *vt* спалучаць; спрагаць
**conjunción** *f грамат*. злучнік
**conjunto** *1adj* аб’яднаны, супольны; *2m* набор, камплект; трупа, ансамбль; ***en c***. у цэлым; супольна, разам; ***este dinero es del c. de todos los belarusos*** гэта грошы ўсіх беларусаў;
**conmemorar** *vt* адзначаць *(дату)*, ушаноўваць
**conmigo** *pron* (*зліццё прыназоўніка* con *і займенніка* mi*)* са мною, з сабою; ***¿irás c.?*** ты пойдзеш са мною?; ***no tengo documentos c***. у мяне з сабою няма дакументаў
**conmover** (ue) *vt* узрушваць, хваляваць
**conocer** (zc) *vt* ведаць, быць знаёмым, знаёміцца; ***no le conozco*** я з ім не знаёмы; я яго не ведаю
**conocido** *1adj* вядомы; *2m* знаёмы, знаёмец
**conocimiento** *m* веданне, веды
**conque** *conj* значыць, дык *(пабочнае слова)*
**conquista** *f* заваёва
**conquistador** *m* заваёўнік; канкістадор *(удзельнік заваёвы і рабавання Амерыкі ў XVI ст.)*
**conquistar** *vt* заваёўваць
**consagrar** *vt* прысвячаць; ***c. su vida a*** прысвяціць сваё жыццё
**consecuencia** *f* вынік, наступства

**conseguir** (i; gu/g) *vt* здабываць, дамагацца; дасягаць, змагчы
**consejal** *m* дараднік; дэпутат *(дапр. муніцыпалітэта)*
**consejo** *m* парада, рада; ***C. de Europa*** Рада Еўропы /Эўропы
**consentir** (e /ie/ i; *як* sentir**)** *vt* пагаджацца на *што-н.*, з *чым-н.*
**conserva** *f* кансерва
**conservación** *f* захаванне, зберажэнне
**conservar** *vt* захоўваць, берагчы
**considerable** *adj* значны, вялікі, важны
**consideración** *f* павага; важнасць, значнасць; разгляд
**considerado** *adj* паважаны; асцярожны, абачлівы
**considerar** *vt* абдумваць, лічыць, разглядаць; паважаць
**consigna** *f* лозунг, дэвіз; камера захавання /*багажні*/
**consigo** *pron* (*зліццё прыназоўніка* con *і займенніка* si) з сабою; ***estaba contento c***. ён быў задаволены сабою; ***llevó a su hermano c***. ён узяў з сабою брата
**consistir** *vt* (en) складацца *(з чаго-н.)*, заключацца *(ў чым-н.)*
**consomé** *m*: ***c. de pollo*** курыны булён
**consonante** *m грамат*. зычная *(літара)*
**constante** *adj* сталы, устойлівы, пастаянны; нястомны, няспынны
**constar** *vi* (de) складацца з *(чаго-н.)*
**constipado** *adj* прастуджаны; ***estar c***. быць прастуджаным
**constiparse** прастудзіцца
**constitución** *f* канстытуцыя, асноўны закон; стварэнне, заснаванне
**constitucional** *adj* канстытуцыйны; ***Tribunal C***. Канстытуцыйны Суд
**constituir** (uy) *vt* засноўваць, утвараць; быць, з'яўляцца *(чым-н.)*
**construcción** *f* будаўніцтва, будоўля; канструкцыя, збудаванне
**constructor** *m* будаўнік; канструктар
**construir** (uy) *vt* будаваць, ствараць
**cónsul** *m* консул
**consulado** *m* консульства
**consulta** *f* кансультацыя, парада, рэкамендацыя
**consultar** *1vt* раіцца, кансультавацца; глядзець, шукаць (*у слоўніку*); ***c. el diccionario*** глядзець у слоўніку; *2vi* раіцца
**consumir** *vt* спажываць, есці; расходваць; мучыць, мардаваць /*пра хваробу*/
**consumo** *m* спажыванне, расход
**contacto** *m* кантакт; дотык
**contaminación** *f* забруджанне
**contaminar** *vt* забрудзіць
**contar** (ue) *1vt* лічыць; апавядаць, расказваць; *2vi* (con) мець; разлічваць, спадзявацца; ***cuenta con un fuerte apoyo*** у яго моцная падтрымка
**contemplar** *vt* разглядаць, сузіраць
**contemporáneo** *1adj* сучасны, які існуе адначасна з намі; *2m* сучаснік
**contener** *vt (як* tener*)* змяшчаць, утрымліваць у сабе; стрымліваць
**contenedor** *m* кантэйнер
**contenido** *m* змесціва; змест *(твора)*
**contestar** *1vt* адказваць; ***c. una pregunta*** адказваць на пытанне; *2vi* пярэчыць
**contigo** *pron (зліццё прыназоўніка* con *і займенніка* ti*)* з табою, з сабою; ***estaré c***. я буду з табою; ***c. pan y cebolla*** з табою- хоць на край свету *(запэўненне закаханых)*
**continental** *adj* кантынентальны
**continente** *m* кантынент, мацярык
**continuación** *f* працяг
**continuar** *1vi* працягвацца, доўжыцца; *2vt* працягваць; ***c***.+ *gerundio (азначае працяглае дзеянне)* ***continuaba hablando*** ён працягваў гаварыць
**continuo** *adj* пастаянны, бесперапынны; сталы *(электрычны ток)*
**contra** *prep* супраць, з, аб; ***luchar c. la dictadura*** змагацца з дыктатурай; ***dar c. la pared*** ударыцца аб/ у сцену
**contradecir** (*як* decir) *vt* су/пярэчыць
**contrario** *adj* супрацьлеглы, супраціўны; шкодны, варожы
**contribución** *f* уклад, унёсак
**contribuir** (uy) *vt* садзейнічаць, спрыяць; рабіць уклад
**control** *m* праверка, кантроль
**controlar** *vt* правяраць, кантраляваць
**convencer** (c/z) *vt* пераконваць; ***c.se*** (de y) пераконвацца, упэўніцца
**convenio** *m* пагадненне, дамова

**conversación** *f* размова, гутарка; ***c.es*** перамовы
**conversar** *vi* гутарыць, размаўляць
**convertir** (ie) *vt* ператвараць; ***c.se*** ператварацца
**convocar** (c/qu) *vt* склікаць *(сход і пад.)*
**copa** *f* кубак *(спартыўны)*
**corazón** *m* сэрца; цэнтр, сярэдзіна
**corbata** *f* гальштук
**cordial** *adj* сардэчны, цёплы
**cordillera** *f* горны ланцуг, кардыльера
**coro** *m* хор; ***a c***. хорам
**corona** *f* вянок; карона
**coronel** *m* палкоўнік; ***teniente c***. падпалкоўнік
**correcto** *adj* правільны, дакладны
**corregir** (i; g/j) *vt* выпраўляць, папраўляць
**correo** *m* пошта, паштовая карэспандэнцыя
**correos** *m* пошта, паштамт, паштовая кантора
**correr** *vi* бегчы, бегаць; *(пра час)* мінаць, праходзіць; *(пра раку)* цячы
**correspondencia** *f* перапіска, карэспандэнцыя
**corresponder** *vi* адпавядаць; належаць
**corresponsal** *m* карэспандэнт
**corrida** *f* карыда, гульня з быком
***corriente*** *1adj* які бяжыць, які цячэ; бягучы *(пра год, месяц)*; звычайны; ***común y c.*** самы звычайны; ***agua c***. вадаправод; бягучая вада; *2f* плынь, кірунак *(у мастацтве)*; пераменны *(пра ток)*; ***c. alterna*** пераменны ток
**cortar** *vt* рэзаць; сячы; скарачаць; абрываць *(размову)*
**cortés** *adj* ветлівы
**cortesía** *f* ветлівасць
**corto** *adj* кароткі
**cosa** *f* рэч; справа; ***entre otras c.s*** між іншага; ***la c. es que***...справа ў тым, што..; ***¿qué c. es..?*** што такое..?
**cosecha** *f* ураджай
**coser** *vt* шыць, зашыць; ***es cantar y c***. гэта лёгкая справа
**cósmico** *adj* касмічны
**cosmos** *m* космас
**costa** I *f* узбярэжжа, бераг
**costa** II *f* цана, кошт; ***a toda c***. любым коштам
**costar** (ue) *vt* каштаваць, мець цану; ***¿cuánto cuesta..?*** колькі каштуе?; ***c. mucho dinero*** каштаваць дорага; ***c. un ojo de la cara*** каштаваць шалёныя грошы
**costarricense**, **costarriqueño** *1adj* костарыканскі; *2m* костарыканец, жыхар Коста - Рыкі
**costumbre** *m* звычай, звычка; ***c.s*** норавы, звычаі
**creador** *1adj* стваральны, творчы; *2m* творца, стваральнік
**crear** *vt* тварыць, ствараць
**crecer** (zc) *vi* расці, павелічацца
**creer** (ey) *vt* верыць, думаць, лічыць, меркаваць; ***¿crees que..?*** ты думаеш, што..?;
***creo que sí*** я думаю, што так
**criar** *vt* гадаваць
**crimen** *m* (*pl* crímenes) злачынства
**criminal** *1adj* злачынны; ***régimen c***. злачынны рэжым; *2m* злачынец
**crisis** *f* (*pl* crisis) крызіс; ***de c***. крызісны; ***atravesar una c***. перажываць крызіс, быць у стане крызісу
**cristal** *m* шкло; шыба; ***de c***. шкляны
**crítica** *f* крытыка
**criticar** (c/qu) *vt* крытыкаваць
**cruce** *m* перасячэнне, скрыжаванне; ***c. de autopistas*** перасячэнне аўтастрад
**crucifijo** *f* распяцце
**crucifixión** *f* укрыжаванне
**cruel** *adj* жорсткі, бязлітасны
**cruz** *f* (*pl* cruces) крыж; ***la C. Roja*** Чырвоны Крыж
**cruzar** (z/c) *vt* пераходзіць, перасякаць, пераплываць
**cuaderno** *m* сшытак
**cuadrado** *1adj* квадратны, прастакутны; *2m* квадрат, прастакутнік
**cuadro** *m* карціна; рама
**cual** *1pron rel* які, каторы; *2adv* як, бы, быццам; ***se escondió c. un cobarde*** схаваўся як

баязлівец
**cuál** *pron interr* хто? які?; **¿c. de los dos?** хто з двух? каторы з двух?
**cualidad** *f* якасць, уласцівасць; **en c. de** як, у якасці *(каго-н.)*
**cualquier** *adj indef* (*скарот* да cualquiera, *ужываецца перад н. м.р./*) **c. chico** любы хлапчук
**cualquiera** (*pl* cualesquiera) *adj indef* любы, які хочаш, усялякі, абы які; **c. de nosotros** любы з нас; **c.que sea** хто б то ні быў
**cuando** *1adv* калі; **la vi c. entró en la sala** я ўбачыў яе калі яна зайшла ў залу; *2conj* калі; **lo creo c. lo afirmas tú** калі гэта сцвярджаеш ты, то я веру
**cuándo** *adv interr* калі?; **¿desde c.?** з якога часу; **¿c. viene?** калі ён прыдзе?; (*калі* cuando *далучае сказ з дзеяннем у буд. часе, то пасьля яго выказьнік стаіць у* subjuntivo: **cuando llegue la luna llena iré a Santiago** як надыйдзе поўня, паеду ў Санцьяга )
**cuanto** *1adj* колькі, столькі колькі; **cenaron c.s vinieron** павячэралі ўсе, хто прышоў; *2pron* столькі колькі, усе што; **comunico c. sé** я паведамляю усё, што ведаю; **en c. a**... што тычыцца..; **c. antes** як мага раней /хутчэй; **c. más** тым болей; **c. más, mejor** чым болей, тым лепей
**cuánto** *1adj interr*., *exclam* колькі; **¿c.s sois?** колькі вас?; **¿c.s años tienes?** колькі табе год?; *2pron interr* які?; **¿a c.s estamos?** якое сёння чысло?; *3adv interr* колькі?; **¿c. cuesta?** колькі каштуе ?
**cuarenta** *num* сорак; саракавы
**cuartel** *m* казарма; **sin c**. бязлітасна, бязлітасны
**cuarto** I 1*adj num* чацвёрты; *2m* чвэрць; **son las dos y c**. чвэрць трэцяй гадзіны
**cuarto** II *m* пакой; **c. de baño** ванны пакой
**cuatro** *num* чатыры; чацвёрты *(старонка, дата)*
**cuatrocientos** *num* чатырыста
**cubano** *1adj* кубінскі; *2m* кубінец, жыхар Кубы (*не блытаць з кубанцам- жыхаром Кубані*!)
**cubierta** *f* палуба; абгортка, вокладка
**cubierto** *1adj* накрыты, пакрыты; **c. de nieve** пакрыты снегам, заснежаны; *2m* сталовы прыбор; *3p.p. да* cubrir
**cubrir** (*p.p.* cubierto) *vt* накрываць, пакрываць; **c.se** накрывацца, пакрывацца
**cuchara** *f* лыжка
**cuchillo** *m* нож
**cuello** *m* шыя; каўнер
**cuenca** *f* басейн *(геаграфічны)*
**cuenta** *f* рахунак, разлік; справаздача; **tener en c**. мець на ўвазе
**cuento** *m* апавяданне; казка
**cuerda** *f* вяроўка, канат; струна; **dar c. al reloj** завесці гадзіннік
**cuero** *m* скура; **de c**. скураны
**cuerpo** *m* цела, тулава; корпус *(вайсковы, дыпламатычны)*
**cuervo** *m* крумкач, груган
**cuestión** *f* пытанне; праблема, задача
**cueva** *f* пячора
**cuidado** *1m* клопат, увага; асцярога; **tener c**. быць асцярожным; *2interj* **¡c.!** сцеражыся!, асцярожна!
**cuidar** *vt* клапаціцца, даглядаць; **c. de los niños** глядзець дзяцей
**culpa** *f* віна
**culpable** *adj* вінаваты
**cultivar** *vt* абрабляць *(зямлю)*; вырошчваць *(расліны)*; развіваць, выхоўваць
**cultivo** *m* апрацоўка *(зямлі)*; вырошчванне *(раслін)*
**culto** *1adj* культурны, адукаваны; *2m* культ; **c. a la personalidad** культ асобы
**cultura** *f* культура, адукацыя
**cultural** *adj* культурны, датычны культуры
**cumbre** *f* вяршыня гары; вышэйшая ступень; вяршыня; сустрэча ў вярхах
**cumpleaños** *m (таксама* día de c.*)* дзень нараджэння
**cumplimiento** *m* выкананне, завяршэнне
**cumplir** *vt* выконваць, канчаць, завяршаць; спаўняцца *(пра дату)*; **hoy cumple doce años** сёння яму спаўняецца дванаццаць год
**cuñado** *m* швагер
**cúpula** *f* скляпенне, купал; верхавіна *(кіраўніцтва)*
**cura** I *m* святар
**cura** II *f* лячэнне, курс лячэння
**curar** *1vt* лячыць, даглядаць *(хворага)*; *2vi* ачуняць; **c.se** вылечыцца
**curiosidad** *f* цікаўнасць; рэдкасць; выдатнасць; **ver las c.es de la ciudad** пазнаёміцца

з выдатнымі мясцінамі горада
**curioso** *adj*цікаўны, незвычайны, рэдкі
**curso** *m* хада *(падзей)*, кірунак, курс
**curva** *f* крывая *(лінія)*; ***tener muchas c.s*** быць зграбнай, быць прыгожай *(пра дзяўчыну)*
**cuyo** *pron rel* чый, якога; ***un hombre c. nombre desconozco*** чалавек, імя якога я не ведаю

## Dd

**da** *гл.* dar
**dado** *adj* дадзены; ***d. que*** паколькі, бо, таму што
**dama** *f* пані, дама; ***d.s*** шашкі /*гульня*/
**danés** *1adj* дацкі; *2m* датчанін, жыхар Даніі; дацкая мова
**danza** *f* танец
**danzar** (z/c) *vt, vi* скакаць, танчыць, танцаваць
**dañar** *vt* шкодзіць, пашкодзіць
**daño** *m* шкода, страта; ***hacer d.*** прычыніць шкоду, нанесці шкоду; ***¡me haces d.!*** мне баліць! *(усклік таго, каму робяць балюча)*
**dar** *vt, irreg (1 а. адз. л. presente* doy*)* даваць, даць; ***d. un paseo*** зрабіць шпацыр, пагуляць; біць /*пра гадзіннік*/; ***han dado las cuatro*** прабіла чатыры гадзіны; выходзіць, быць звернутым; ***las ventanas dan al parque*** вокны выходзяць на парк; ***d.cuerda al reloj*** заводзіць гадзіннік; ***d. las gracias*** дзякаваць; ***d.se cuenta de*** заўважыць; ***d.se por vencido*** здацца, паддацца; ***d.se prisa*** спяшацца
**datos** *m pl* дадзеныя, звесткі
**de** *prep (з артыклем* el *мае форму* del*)* з, ад, пра, з-за, за; а) *(выражае адносіны, што перадаюцца беларускім родным склонам);* ***el maestro de español*** настаўнік іспанскай мовы; ***la capital de Belarús*** сталіца Беларусі; b) *выражае адносіны, што адпавядаюць беларускаму меснаму склону*; ***hablar de amor*** гаварыць пра каханне; c) калі; ***de no decirlo tú no lo creería*** калі б не ты гэта сказаў, я не паверыў бы; d) *уваходзіць у склад шматлікіх выразаў*: ***de madrugada*** на досвітку; ***de memoria*** напамяць; ***de mi parte*** з майго боку; ***de nada*** няма за што /*адказ на падзяку* /; ***de niño*** дзіцёнкам, у дзяцінстве; ***de nuevo*** зноў; ***de pie*** стоячы, на нагах; ***de pronto*** раптам, раптоўна; ***de postre*** на дэсерт
**debajo** 1*adv* унізе; 2*prep* ***d. de*** пад; ***d. de la mesa*** пад сталом
**deber** I *m* абавязак, доўг; ***d.es*** хатнія заданні
**deber** II *vt* мусіць, быць абавязаным; ***debe hacerlo*** ён мусіць зрабіць гэта
**debido** *adj* належны; ***d. a*** дзякуючы*(чаму-н.)*; ***como es debido*** як належыць, належным чынам
**débil** *adj* слабы, кволы
**debilidad** *f* слабасць
**debilitar** *vt* аслабляць
**decena** *f* дзесятак
**decenio** *m* дзесяцігоддзе
**decidir** *vt* рашаць, вырашаць; ***d.se*** рашацца, адважыцца /*на што-н.*/
**décimo** *adj* дзесяты
**decir** *vt, irreg (1 а.адз.л. presente* digo) казаць, гаварыць; ***es d***. гэта значыць, то бо; ***¡diga!***гаварыце! алё!; ***digamos*** скажам так
**decisión** *f* рашэнне, вырашэнне; рашучасць
**decisivo** *adj* рашучы, вырашальны
**declaración** *f* заява, дэкларацыя
**declarar** *vt* абвяшчаць, заяўляць; ***d. su amor*** прызнацца ў каханні
**declinación** *f* скланенне
**decoración** *f* упрыгожанне, аздабленне
**decorar** *vt* упрыгожваць, аздабляць
**decreto** *m* дэкрэт, пастанова
**dedicar** (c/qu) *vt* прысвячаць; ***d.se a*** займацца *(чым-н.)*, прысвяціць сябе *(чаму-н.)*
**dedo** *m* палец
**defecto** *m* недахоп, дэфект
**defender** (ie) *vt* абараняць; ***d.se*** абараняцца
**defensa** *f* абарона
**defensor** *m* абаронца
**definición** *f* вызначэнне, удакладненне
**definir** *vt* вызначаць, удакладняць
**definitivamente** *adv* канчаткова, пэўна
**definitivo** *adj* канчатковы, пэўны
**deformar** *vt* скажаць, дэфармаваць
**dejar** *vt* пакідаць; ***d. en paz*** пакідаць у спакоі; дазваляць, даць; ***dejame ver*** дай пазірнуць, дай пабачыць; ***d. de*** +

*infinitivo* пераставаць *што-н*. рабіць; ***dejó de fumar*** ён кінуў курыць; ***d.se*** дазваляць сабе, даць сабе
**el = de + el**
**delantal** *m* хвартух
**delante***1adv* паперадзе, наперадзе; *2prep* ***d. de*** перад; ***d. de la casa*** перад хатаю
**delegación** *f* дэлегацыя
**delegado** *m* дэлегат
**delfín** *m* дэльфін
**delgado** *adj* худы, тонкі; стройны; хударлявы
**deliberar** *vi* разважаць; раіцца, абмяркоўваць
**delicado** *adj* тонкі, далікатны; кволы; прыгожы; далікатны /*пра пытанне*/
**delicia** *f* насалода, радасць, задавальненне
**delicioso** *adj* чароўны, вытанчаны, прыгожы
**delincuencia** *f* злачыннасць; ***d. organizada*** арганізаваная злачыннасць
**delincuente** *m* злачынец
**delito** *m* злачынства
**demanda** *f* попыт; патрабаванне
**demandar** *vt* патрабаваць
**demás** *adj* астатні; ***los d***. астатнія,рэшта
**demasiado** *1adj* празмерны; *2adv* занадта, надта; ***d. tarde*** запозна, занадта позна
**demonio** *m* шатан, д’ябал
**democracia** *f* дэмакратыя
**demócrata** *f, m* дэмакрат, -ка
**democrático** *adj* дэмакратычны
**demostrar** (ue) *vt* праяўляць, паказваць, дэманстраваць; даказваць
**densidad** *f* шчыльнасць, гушчыня
**denso** *adj* шчыльны, густы
**dentífrico**: ***pasta d.a*** зубная паста
**dentista** *f, m* дантыст, зубны лекар
**dentro** *1adv* унутры; *2prep* ***d. de*** у, унутры; праз *(пра час)*; ***d. de la caja*** у скрынцы; ***d. de dos días*** праз два дні
**denunciar** *vt* заявіць *(у паліцыю)*, выкрываць
**departamento** *m* установа, дэпартамент, аддзел
**depender** *vi* **(**de**)** залежаць; ***eso depende*** гледзячы як
**dependienta** *f* прадаўшчыца
**dependiente** *m* служачы
**deporte** *m* спорт
**deportista** *f, m* спартсмен, -ка, спартовец
**deportivo** *adj* спартыўны
**depósito** *m* склад; паліўны бак, бензабак
**deprimido** *adj* прыгнечаны
**deprisa** *adv* хутка, шпарка; ***¡más d.!*** хутчэй
**derecha** *f* правы бок; ***a la d***. направа, справа
**derecho** *1adj* правы; роўны, правы, не крывы; *2adv* прама; ***ir todo d***. ісці толькі прама;
3. *m* права; ***d. al trabajo*** права на працу;
**derribar** *vt* разбураць, ламаць; збіваць /*самалёт/*
**derrota** *f* параза, разгром
**derrotar** *vt* разбураць; разграміць
**derrumbarse** абрынуцца, падаць, развальвацца
**desagradable** *adj* непрыемны
**desanimar** *vt* бянтэжыць; дэмаралізаваць
**desaparecer** (zc) *vi* знікаць, хавацца
**desaparición** *f* знікненне, прапажа; скон
**desarmado** *adj* бяззбройны
**desarmar** *vt* раззброіць, абяззброіць
**desarme** *m* раззбраенне
**desarrollar** *vt* развіваць, разгортваць *(дзейнасць)*; распрацоўваць; праяўляць *(актыўнасць)*; ***d.se*** развівацца
**desarrollo** *m* развіццё
**desayunar** *vi, vt* снедаць
**desayuno** *m* снеданне, сняданак
**descalzarse** (z/c) разувацца
**descalzo** *adj* босы, разуты
**descansar** *vi* адпачываць
**descanso** *m* адпачынак
**descargar** (g/gu) *vt* разгружаць; разраджаць; страляць

**descender** (ie) *vi* спускацца, зніжацца; паходзіць, быць нашчадкам
**descendiente** *f, m* нашчадак, патомак
**desconocer** (zc) *vt* не ведаць
**desconocido** *adj, m* невядомы
**descontento** *1adj* незадаволены; *2m* незадаволенасць
**describir** *vt* (*p.p.* descrito) апісваць
**descripción** *f* апісанне
**descrito** *adj* апісаны
**descubrimiento** *m* адкрыццё
**descubrir** *vt* (*p.p.* descubierto) адкрываць, рабіць адкрыццё
**descuidar** *vi* не турбавацца, не клапаціцца; ***descuide*** не турбуйцеся, будзьце спакойныя
**desde** *prep (пра час)* з, пачынаючы з; ***d. ayer*** з учарашняга дня; ***d. entonces*** з таго часу; *(пра адлегласць)* ад, з; ***d.aquí*** адсюль; ***d. arriba*** зверху; ***d. luego*** вядома, канешне; ***d. que*** з таго часу як, з той пары як; ***d. hace un año*** вось ужо год;
**desear** *vt, vi* жадаць
**desembarcar** (c/qu) *1vt* выгружаць, высаджваць; *2vi,* ***d.se*** выгружацца, высаджвацца
**desembarco** *m* выгрузка, высадка; дэсант
**desembocar** (c/qu) *vi* упадаць *(пра раку)*
**desempeñar** *vt* выконваць; займаць *(пасаду)*; ***d. un papel*** адыгрываць ролю
**desencantado** *adj* расчараваны
**desencanto** *m* расчараванне
**desenchufar** *vt* выключаць, адключаць
**deseo** *m* жаданне
**desértico** *adj* пустэльны; пустынны
**desesperado** *adj* роспачны, у адчаі
**desgracia** *f* няшчасце, бяда, ліха
**desgraciado** *adj* няшчасны, гаротны
**deshacer** *vt ( як* hacer; *p.p.* deshecho*)* разбураць, псаваць; выпраўляць *(памылку)*; распакаваць *(чамадан)*; ***d.se*** разбурацца; (de) адчапіцца, адцурацца
**desierto** *1m* пустыня, пустэча; *2adj* пусты, бязлюдны
**designar** *vt* прызначаць, вылучаць *(на пасаду)*
**desigual** *adj* няроўны, неаднолькавы
**desigualdad** *f* няроўнасць
**desfile** *m* парад
**desmayo** *m* непрытомнасць
**desnudo** *adj* голы, аголены
**desocupado** *adj* вольны, незаняты, гуляшчы
**desolación** *f* адчай; смутак; разарэнне
**desorden** *m* бязладдзе; неахайнасць, беспарадак
**desorientado** *adj* збіты з панталыку, дэзарыентаваны
**despacio** *adv* паволі, ціха, пакрысе
**despacho** *m* кабінет; адпраўка
**despedida** *f* развітанне; звальненне
**despedir** (i) *vt* (*як* pedir) праводзіць, адпраўляць; звальняць; ***d.se*** развітвацца
**despegar** (g/gu) *vi* узлятаць, адрывацца ад зямлі
**despejado** *adj* чысты, бясхмарны; ***el cielo está d***. неба чыстае
**despertador** *m* будзільнік
**despertar** (ie) *vt* будзіць; ***d.se*** прачынацца
**desplegar** (ie; g/gu) *vt* разгортваць
**después** *1adv* потым, пасля; затым, пазней; ***una semana d***. праз тыдзень; *2prep* ***d. de*** пасля, пасля таго як; ***d. de las clases*** пасля ўрокаў; ***d. de*** + infinitivo *(перадаецца дзее прыслоўем ці даданым сказам)*; ***d. de venir a casa*** прыйшоўшы дамоў, калі я /ты, ён і г.д./ прыйшоў дамоў
**destacado** *adj* выдатны, выбітны, слынны
**destacamento** *m* аддзел, атрад
**destacar** *(c/qu) vt* выдзяляць, адзначаць; ***d.se*** выдзеліцца, вызначыцца
**destinar** *vt* прызначаць
**destinación** *f* прызначэнне, пасада; месца прызначэння
**destino** *m* лёс; прызначэнне, пасада; ***con d. a*** у, да /*пра накірунак*/
**destrozar** (z/c) *vt* разбураць, разбіваць, нішчыць
**destruir** (uy) *vt* разбураць, нішчыць, руйнаваць
**desviación** *f* аб'езд
**detalle** *m* падрабязнасць, дэталь
**detener** *vt* (*як* tener) затрымліваць, арыштоўваць; спыняць; ***d.se*** спыняцца; бавіцца, затрымлівацца

**determinación** *f* рашучасць; вызначэнне
**determinado** *adj* пэўны; рашучы,смелы; ***artículo d***. *грамат*. азначальны артыкль
**determinar** *vt* вызначаць, вырашаць
**detrás** *1adv* ззаду; *2prep* ***d. de*** за, ззаду; ***d. de la casa*** за хатаю
**deuda** *f* доўг; ***d. externa*** знешні доўг
**deudor** *m* даўжнік
**devolver** (ue) *vt* (*як* volver; *p.p*. devuelto) вяртаць, аддаваць
**devuelto** *adj* вернуты**;** *p.p да* devolver
**día** *m* дзень; ***de d***. удзень, днём; ***un d.*** аднойчы, неяк; ***un d. sí y otro no*** праз дзень;
***todos los d.s***, ***cada d***. штодзень, кожны дзень; ***d. de permiso*** вольны дзень; ***d.s hábiles*** працоўныя дні; ***¡buenos d.s!*** добры дзень!; ***dar los buenos d.s*** вітацца
**diablo** *m* д'ябал, шатан, нячысьцік
**dialogar** (g/gu) *vi* размаўляць, гутарыць
**diálogo** *m* дыялог
**diario** *1adj* штодзённы; ***a d***. штодзень; *2m* газета; дзённік
**dibujar** *vt* маляваць; крэсліць, чарціць
**dibujo** *m* малюнак, чарцёж, план; маляванне; ***d.s animados*** мультфільм
**diccionario** *m* слоўнік; ***d. de la lengua*** слоўнік мовы, тлумачальны слоўнік
**diciembre** *m* снежань
**dictado** *m* дыктант, дыктоўка
**dictador** *m* дыктатар
**dictadura** *f* дыктатура
**dicha** *f* шчасце
**dicho** *1adj* сказаны; *2p.p. да* decir; *3m* слова, выслоўе
**dichoso** *adj* шчаслівы; пракляты
**diecinueve** *num* дзевятнаццаць; дзевятнаццаты
**dieciocho** *num* васемнаццаць; васемнаццаты
**dieciseis** *num* шаснаццаць; шаснаццаты
**diecisiete** *num* семнаццаць; семнаццаты
**diente** *m* зуб
**diez** *adj num* дзесяць; дзесяты *(дата, старонка)*
**diferencia** *f* розніца, адрозненне
**diferenciar** *vt* адрозніваць; ***d.se*** адрознівацца
**diferente** *adj* розны; іншы
**difícil** *adj* цяжкі
**dificultad** *f* цяжкасць
**dignidad** *f* годнасць
**digno** *adj* годны
**dimensión** *f* памер; маштаб, размах
**diminuto** *adj* маленькі, малюпасенькі
**dinamo** *m* генератар *(аўтамабілю)*
**dinero** *m* грошы
**dios** *m* бог; ***D***. Бог
**diputado** *m* дэпутат (*парламенту*)
**dirección** *f* кірунак; кіраўніцтва; адрас
**directamente** *adv* прама, непасрэдна
**directo** *adj* прамы
**director** *m* дырэктар, загадчык; ***d. de orquesta*** дырыжор; ***d. de cine*** кінарэжысёр;
***d. de teatro*** тэатральны рэжысёр
**dirigente** *m* кіраўнік
**dirigir** (g/j) *vt* кіраваць, накіроўваць; ***d.se a*** накіроўвацца; звяртацца /*да каго-н.*/
**disciplina** *f* дысцыпліна
**disco** *m* дыск, круг; кружэлка, пласцінка
**disculpar** *vt* выбачаць, прабачаць; ***¡disculpe!*** даруйце! выбачайце!
**discurso** *m* прамова, выступ
**discutir** *vt* абмяркоўваць, дыскутаваць; аспрэчваць
**disfrutar** *vt* карыстацца, мець; цешыцца
**disminuir** (uy) *1vt* змяншаць, памяншаць; *2vi* змяншацца
**disparar** *vt* страляць
**disponer** (*як* poner; *p.p.* dispuesto) *1vi* мець; мець у сваім распараджэнні; ***no dispongo de tiempo*** я не маю часу; *2vt* размяшчаць; ***d.se*** размяшчацца; ***d.se*** (a, para) збірацца, мець намер, рыхтавацца да
**disposición** *f* размяшчэнне; распараджэнне, валоданне
**dispuesto** *1adj* размешчаны; гатовы, схільны; ***estar d. para*** быць гатовым да; *2p.p. да* disponer **distancia** *f*

адлегласць, дыстанцыя
**distinguir** (gu/g) *vt* адрозніваць, выдзяляць; ***d.se*** вызначацца; віднецца, праглядацца
**distinto** *adj* розны, адрозны; ясны, зразумелы; незвычайны
**distraer** *vt* (*як* traer )адцягваць /*увагу*/; забаўляць; ***d.se*** забаўляцца, весяліцца
**distraido** *adj* няўважлівы, незасяроджаны
**distribuir** (uy) *vt* размяркоўваць, раздаваць
**distrito** *m* акруга, край, раён
**diverso** *adj* розны, разнастайны
**divertido** *adj* забаўны, вясёлы, цікавы; ***estar d***. быць вясёлым; ***es una chica divertida*** яна вясёлая дзяўчына
**divertir** (ie) *vt* забаўляць, цешыць; ***d.se*** забаўляцца, цешыцца
**dividir** *vt* дзяліць, падзяляць, аддзяляць; ***d.se*** дзяліцца, падзяляцца
**divino** *adj* боскі, божы
**división** *f* падзел, раздзяленне; дывізія
**divorciarse** разводзіцца *(скасоўваць шлюб)*
**divorcio** *m* развод; нязгода; разыходжанне
**doblar** *vt* падвойваць; згінаць, складаць напал; абыходзіць; дубляваць *(фільм)*; ***d. la esquina*** заходзіць за рог; ***d. a la derecha*** павярнуць направа
**doble** *adj* падвойны
**doce** *num* дванаццаць; дванаццаты (*дата, старонка*)
**docena** *f* тузін
**doctor** *m* лекар, урач; доктар *(навуковае званне)*
**doctrina** *f* дактрына, вучэнне
**documento** *m* дакумант; ***d. de identidad*** пасведчанне асобы
**doler** (ue) *vi* балець; ***¿qué te duele***? што табе баліць?; ***me duele la cabeza*** мне баліць галава
**dolor** *m* боль, смутак, гора; ***d.de cabeza*** галаўны боль
**doloroso** *adj* хваравіты, хворы; пакутлівы, балючы
**doméstico** *adj* хатні; ***animales d.s*** свойскія жывёлы
**dominar** *vt* панаваць, уладарыць; ***d. español*** валодаць іспанскаю моваю
**domingo** *m* нядзеля
**don** I *m* дар, дарунак; талент
**don** II *m* спадар, пан; дон /*ужываецца толькі перад іменем*/ ***d. Juan*** дон Хуан
**donante** *m, f* донар
**doncella** *f* дзяўчына; пакаёўка
**donde** *adv* дзе
**dónde** *adv interr* дзе?; ***¿ a d.?*** куды?; ***¿de d.?*** адкуль?
**doña** *f* спадарыня, пані; донья *(ужываецца толькі перад іменем)* ***d. Sofía*** донья Сафія
**dorado** *adj* залаты, пазалочаны; ***el D***. Эльдарада *(казачна багатая краіна)*; ***sueño d***. блакітная мара
**dorar** *vt* падсмажваць; залаціць
**dormir** (ue,u) *vi* спаць
**dormitar** *vi* драмаць
**dormitorio** *m* спальня
**dos** *1num* два; другі (*дата, старонка*); ***los d***. абодва; ***las d***. абедзьве; 2*m* двойка
**doscientos** *num* дзвесце
**dotar** *vi* (de) аснашчаць; даваць датацыю
**drama** *m* драма
**dramático** *adj* драматычны
**dramaturgo** *m* драматург
**ducha** *f* душ
**ducharse** браць /прымаць душ
**duda** *f* сумнеў, сумненне
**dudar** *vi,vt* сумнявацца; ***lo dudo*** я ў гэтым сумняваюся
**dudoso** *adj* сумнеўны, няпэўны
**dueña** *f* гаспадыня, уласніца, пані
**dueño** *m* гаспадар, уласнік, пан
**dulce** *1adj* салодкі; прэсны *(пра ваду)*; пяшчотны, прыемны; *2m* ***d.s*** прысмакі, ласункі
**durante** *adv* цягам, на працягу, у час, падчас; ***d. las vacaciones*** на вакацыях, падчас вакацыяў
**durar** *vi* доўжыцца, цягнуцца, трывацца; ***eso no va a d. mucho*** гэта доўга не пратрывае
**dureza** *f* цвёрдасць, моц, трываласць; жорсткасць, суровасць
***duro****1adj* цвёрды; суровы, жорсткі; чэрствы *(хлеб)*; *2m* дура *(іспанская манета вартасцю 5 песет)*

**Ee**

**e** *conj* (*ужываецца замест* “у” *перад словамі,што пачынаюцца з* i-, hi-) padres e hijos бацькі і дзеці; ***Juan e Irene*** Хуан ды Ірэнэ
**eco** *m* рэха, пошчак; водгук
**economía** *f* эканоміка, гаспадарка; ашчаднасць
**económico** *adj* эканамічны, гаспадарчы
**economista** *m, f* эканаміст
**ecuador** *m* экватар
**ecuatorial** *1adj* экватарыяльны *2m* экватарыял *(астранамічная прылада)*
**ecuatoriano** *1adj* эквадорскі; *2m* эквадорац, жыхар Эквадору
**echar** *vt* кідаць, шпурляць, выкідаць; ліць, наліваць; накладаць; выганяць, праганяць; ***e. gasolina*** запраўляцца палівам; ***e.culpa a*** вінаваціць; ***e***. /***e.se a*** + *infinitivo* пачынаць *што-н*. рабіць; ***e***./***e.se a reir*** засмяяцца; ***e.se a perder*** псавацца; збівацца з правільнага шляху; ***e.se*** кідацца
**edad** *f* узрост, эпоха, век; ***la E.Media*** Сярэднявечча
**edición** *f* выданне
**edificio** *m* будынак, гмах
**educación** *f* выхаванне, навучанне, адукацыя
**educado** *adj* выхаваны
**educador** *m* выхавальнік
**educar** (c/qu) *vt* выхоўваць, навучаць
**efectivamente** *adv* сапраўды
**efectivo** *adj* дзейсны, эфектыўны
**efecto** *m* эфект, дзеянне, уздзеянне
**efectuar** *vt* выконваць, здзяйсняць, ажыццяўляць
**eficaz** (*pl* eficaces) *adj* дзейсны, эфектыўны, плённы
**egipcio** *1adj* егіпецкі; *2m* егіпцянін, жыхар Егіпту
**egoismo** *m* эгаізм, сябелюбства
**eje** *m* вось, вал
**ejemplar** 1*adj* узорны; 2*m* асобнік; узор
**ejemplo** *m* прыклад, узор; ***por e***. дапрыкладу
**ejercer** (c/z) *vt* аказваць *(уплыў)*; займаць *(пасаду)*; ажыццяўляць
**ejercicio** *m* практыкаванне; выкананне, ажыццяўленне *(функцыяў)*
**ejército** *m* войска, армія
**el** *1art det адз. л. м.р.* el libro кніга; /*зліваючыся з прыназоўнікам* de *мае форму* del/;
***vengo del bosque*** я іду з лесу; *2art. det. адз. л. ж. р перад словамі, што пачынаюцца з націскнога* a- *ці* ha-: ***el ama, el hada***; *3pron rel* ***el que*** які, што, той хто, каторы; ***el que lee mucho, sabe mucho*** хто шмат чытае, той шмат ведае;
**él** *pron pers 3 а. адз. л*. ён
**elección** *f* выбар; ***e.es*** выбары
**elector** *m* выбаршчык
**electoral** *adj* выбарчы
**electricidad** *f* электрычнасць
**eléctrico** *adj* электрычны
**electrónica** *f* электроніка
**electrónico** *adj* электронны
**elefante** *m* слон
**elegancia** *f* элегантнасць
**elegante** *adj* элегантны, прыгожы
**elegir** (g/j) *vt* выбіраць, абіраць
**elemento** *m* элемент, сродак; стыхія; ***e.s rudimentarios*** прымітыўныя сродкі
**elevado** *adj* высокі, узняты; узнёслы
**elevar** *vt* узнімаць; падвышаць
**elite** *f* эліта, адборная частка *чаго-н.*
**ella** *pron pers 3 а. адз. л. ж. р*. яна
**ellas** *pron pers pl 3 а. мн. л. ж. р*. яны
**ello** *pron pers 3 а.адз. л. н. р*. яно, гэта, тое
**ellos** *pron pers pl 3 а. мн. л. м. р*. яны
**embajada** *f* пасольства
**embajador** *m* пасол
**embarcación** *f* судна; лодка; пагрузка *(на судна)*
**embarcar** (c/qu) *vt* грузіць *(на судна)*; ***e.se*** садзіцца *(на карабель)*
**embargo** *m* забарона, эмбарга; ***sin e***. аднак, тым не менш
**embotellamiento** *m* затор *(вулічны)*

**embrague** *m* шчапленне *(механізм)*
**embutido** *m* каўбаса
**emerger** (g/j) *vi* з'яўляцца, узнікаць
**emérito** *adj* заслужаны, ганаровы
**emigración** *f* эміграцыя
**emigrado** *m* эмігрант
**emigrar** *vi* эміграваць, выязджаць; міграваць *(пра жывёл)*
**emoción** *f* хваляванне, узрушанасць; эмоцыі, пачуццё
**emocionado** *adj* усхваляваны, узрушаны
**emocionante** *adj* хвалюючы, прачулы
**emocionar** *vt* хваляваць, узрушваць
**empanada** *f* пірог
**empañado** *adj* затуманены
**empezar** (ie; z/c) *1vt* пачынаць; ***e. a leer*** пачынаць чытаць; *2vi* пачынацца
**empleado** *m* службовец, чыноўнік
**emplear** *vt* ужываць, прымяняць; наймаць *(на працу)*
**emprender** *vt* пачынаць, прадпрымаць; ***e. un viaje*** зъездзіць, здзейсніць паездку
**empresa** *f* прадпрыемства; намер, план
**empujar** *vt* штурхаць
**emulación** *f* спаборніцтва
**en** *prep* у, на; ***en la clase*** у класе; на ўроку; ***en la pared*** на сцяне; ***en mayo*** у траўні; ***en épocas remotas*** у аддаленыя часы; ***en media hora*** праз паўгадзіны; ***en invierno*** зімою; ***en regla*** у парадку; ***en seguida*** адразу ж;
**enamorado** *adj, m* закаханы
**enamorar** *vt* закахаць; ***e.se*** закахацца
**encabezar** (z/c) *vt* ачоліць, узначаліць
**encaje** *m* карункі
**encantado** *adj* зачараваны; надзвычай задаволены, у захапленні; ***estar e.*** быць у захапленні; ***¡e.!*** вельмі рады! *(рэпліка пры знаёмстве)*
**encantar** *vt* зачараваць, прывесьці ў захапленне
**encanto** *m* прыгажосць, чары; ***como por e.*** як па чароўным слове
**encarcelar** *vt* кінуць у вязніцу, пасадзіць у турму
**encargar** (g/gu) *vt* даручаць, абавязваць, заказваць; ***e.se*** займацца *чым-н.*, браць на сябе /*справу*/
**encender** (ie) *vt* запальваць, уключаць *(святло)*, распальваць *(пачуцці)*
**encerado** *m* класная дошка
**encerrar** (ie) *vt* зачыняць, замыкаць; утрымліваць у сабе
**encima** *1adv* наверсе, зверху, на; ***venirse e.*** насоўвацца, набліжацца; *2prep* ***e. de*** на, над; ***e. de la mesa*** над сталом; ***por e. de*** праз, паверх; ***saltar por e. de la tapia*** скочыць праз плот
**encontrar** (ue) *vt* сустракаць *(неспадзявана)*, знаходзіць; ***e.se*** знаходзіцца, сустракацца, быць
**encuentro** *m* сустрэча, спатканне
**enchufar** *vt* уключаць *(электрапрыладу)*
**enemigo** *1adj* варожы; *2m* вораг
**energía** *f* энергія
**enérgico** *adj* энергічны
**enero** *m* студзень
**enfadado** *adj* раззлаваны, сярдзіты
**enfadarse** раззлавацца
**enfermedad** *f* хвароба
**enfermera** *f* медычная сястра, медсястра
**enfermo** *adj, m* хворы
**enfrente** *adv* насупраць, упоравень
**engañar** *vt* маніць, падманьваць, хлусіць
**engaño** *m* падман, хлусня, мана
**enlace** *m* сувязь; сувязны
**enojarse** зазлаваць, быць сярдзітым
**enorme** *adj* вялізарны, агромністы
**enriquecer** (zc) *vt* узбагачаць; ***e.se*** багацець, узбагачацца
**enseñanza** *f* навучанне, вучоба, адукацыя; выкладанне
**enseñar** *vt* навучаць, вучыць, выкладаць
**entender** (ie) *vt* (de) разумець, ведаць, разбірацца (*ў чым-н.*); ***e.se*** паразумецца, дамаўляцца
**enterarse** (de) даведацца, дазнацца
**entero** *adj* увесь, цэлы
**enterrar** (ie) *vt* хаваць *(нябожчыка)*; закопваць
**entierro** *m* пахаванне

**practicar** (c/qu) *vt* практыкаваць, займацца; ***p. deporte*** займацца спортам
**práctico** *adj* практычны; ***casi la práctica totalidad de***... практычна ўсе...
**pradera *f*, prado** *m* луг, выган; ***El Prado*** Эль Прада, Прада *(славуты музей у Мадрыдзе, адзін з найслаўнейшых у свеце)*
**precio** *m* цана
**precioso** *adj* цудоўны, каштоўны
**precisión** *f* дакладнасць; неабходнасць; ***de p***. высокадакладны
**preciso** *adj* неабходны; дакладны, ясны; ***es p***. трэба; ***es p. que*** + *subjuntivo* трэба каб; ***es p. que venga*** трэба каб ён прыйшоў
**predicado** *m грамат*. выказнік
**predominar** *vi* пераважаць, дамінаваць, панаваць
**preescolar** *1adj* дашкольны; *2m* дашкольнік
**preferido** *adj* любімы, улюбёны, упадабаны
**preferir** (ie) *vt* аддаваць перавагу, лічыць за лепшае, любіць болей; ***prefiero este vestido*** мне болей даспадобы гэтая сукенка
**pregunta** *f* пытанне
**preguntar** *vt* пытаць, запытваць; ***p. por Nicolas*** пытаць пра Нікаласа, пытаць Нікаласа, *(г.зн. пытаць ці ён ёсць)*
**premio** *m* узнагарода
**prender** *vt* прышпіляць, прымацоўваць; арыштоўваць; ***p. se de*** закахацца ў...
**prensa** *f* друк, прэса; прэс; ***p. opositora*** апазіцыйны друк
**preocupación** *f* занепакоенасць, клопат
**preocupado** *adj* занепакоены, заклапочаны
**preocuparse** хвалявацца, непакоіцца, турбавацца
**preparación** *f* падрыхтоўка; гатаванне *(стравы)*
**preparado** *adj* падрыхтаваны; згатаваны *(страва)*
**preparar** *vt* рыхтаваць; гатаваць *(страву)/;* ***p. la comida*** гатаваць страву; ***p. se*** рыхтавацца
**preposición** *f грамат*. прыназоўнік
**presencia** *f* прысутнасць, знаходжанне
**presenciar** *vt* прысутнічаць
**presentar** *vt* знаёміць, прадстаўляць; прад'яўляць *(дакумант)*; ***p.se*** з'яўляцца /*куды-н*./
**presente** *1adj* прысутны; цяперашні; *2m грам*. цяперашні час
**presidenta** *f* прэзідэнт-жанчына; прэзідэнціха
**presidente** *m* старшыня; прэзідэнт
**presidir** *vt* старшыняваць, весці сход
**presión** *f* ціск; націск, уціск
**preso** *m* зняволены, палонны
**prestar** *vt* даваць, аказваць *(дапамогу)*; пазычаць *(каму-н.)*; ***p. ayuda*** дапамагаць; ***p. atencion*** надаваць увагу
**prestigio** *m* аўтарытэт, прэстыж
**prestigioso** *adj* аўтарытэтны, прэстыжны
**pretender** *vt* патрабаваць, прэтэндаваць, імкнуцца; заляцацца
**prevenir** *vt* (*як* venir) папярэджваць, перасцерагаць, прадухіляць
**prever** *vt* (*як* ver, *p.p*. previsto) прадбачыць, прадугледжваць
**previsto** *1p.p. да* prever; *2adj* прадугледжаны
**prima** *f* стрыечная/ дваюродная сястра
**primavera** *f* вясна; ***en p***. навясне, увесну, вясною
**primer** *adj* скарот *ад* primero, *ужываецца перад наз. м. р. адз. л.*; ***el p. dia*** першы дзень,у першы дзень
**primero** *1adj* першы; ранейшы; *2adv* спярша, спачатку
**primitivo** *adj* першапачатковы; першабытны; прымітыўны
**primo** *m* стрыечны /дваюродны брат
**principal** *adj* галоўны, асноўны
**principalmente** *adv* прынцыпова; пераважна, галоўным чынам
**príncipe** *m* князь, прынц
**principio** *m* пачатак; прынцып; ***al p***. напачатку, спачатку; ***a p.s del año*** напачатку года
**prisa** *f* паспешлівасць, таропкасць; ***darse p***. спяшацца; ***¡date p.!*** хутчэй!; ***tener p***. спяшацца; ***tengo p***. я спяшаюся, мне некалі; ***de p***. хутка, шпарка
**prisión** *f* вязьніца, турма
**prisionero** *m* вязьня, зняволены, палонны
**privación** *f* пазбаўленне; нястача
**privado** *adj* прыватны, асабісты; ***en p***. прыватным чынам
**privar** *vt* пазбаўляць
**probabilidad** *f* верагоднасць, магчымасць
**probable** *adj* верагодны, вераемны, магчымы; ***es p. que*** + *subjuntivo* напэўна, магчыма, што...

**probar** (ue) *vt* даказваць, даводзіць; спрабаваць, выпрабоўваць; мераць /*вопратку*/ каштаваць *(страву)*
**problema** *m* праблема, пытанне; задача, прыклад *(матэматычны)*
**procedencia** *f* паходжанне
**proceder** *vi* паходзіць, браць пачатак; дзейнічаць
**procedimiento** *m* працэс, спосаб, прыём; паводзіны
**proceso** *m* працэс *(і судовы)*
**proclamación** *f* абвяшчэнне
**proclamar** *vt* абвяшчаць
**procurar** *vt* імкнуцца, дамагацца; здабываць
**produccion** *f* вытворчасць, выпуск, прадукцыя
**producir** (zc) *vt, irreg* выпускаць, выракляць, рабіць; ***p. una buena impresión*** рабіць добрае ўражанне; ***p.se*** адбывацца, здарацца
**producto** *m* выраб, прадукт; плён, вынік
**profesión** *f* прафесія, занятак
**profesional** *1adj* прафесійны; *2m* прафесіянал
**profeso** *m* выкладчык, настаўнік; прафесар
**profesora** *f* выкладчыца, настаўніца; прафесар-жанчына
**profundidad** *f* глыбіня, глыб
**profundo** *adj* глыбокі
**programa** *m* праграма *(мужчынскага роду!)*
**progresivo** *adj* прагрэсіўны, перадавы; паступовы, які нарастае
**progreso** *m* прагрэс, поспех; рух наперад
**prohibido** *adj* забаронены
**prohibir** *vt* забараняць
**prolongación** *f* падаўжэнне
**promesa** *f* абяцанне
**prometer** *vt* абяцаць
**pronombre** *m грамат*. займеннік
**pronto** *adv* хутка, шпарка; рана; ***de p***. раптам, раптоўна, неспадзявана; ***¡hasta p.!*** да хуткай сустрэчы!
**pronunciación** *f* вымаўленне
**pronunciar** *vt* вымаўляць; ***p.se por/ contra*** выказвацца за /супраць
**propiedad** *f* уласнасць, маёмасць; уласцівасць; ***p. privada*** прыватная ўласнасць
**propina** *f* чаявыя грошы; ***dar de p***. даць на чай
**propio** *adj* уласны, уласцівы; сам; ***el p. maestro lo reconoció*** сам настаўнік прызнаў гэта
**proponer** *vt* (*як* poner, *p.p.* propuesto) прапаноўваць
**proporción** *f* суадносіна, прапорцыя
**proporcionar** *vt* даваць, прыносіць; ***p. placer*** даваць /прыносіць задавальненне
**proposición** *f* прапанова
**propósito** *m* намер; ***a p***. дарэчы (*пабочнае слова*)
**prosa** *f* проза
**prosáico** *adj* празаічны
**protagonista** *m, f* галоўная дзейная асоба, галоўны герой, выдатная постаць
**protagonizar** (z/c) *vt* быць галоўнай дзейнай асобай, вызначыцца; ***p. la historia española*** адыграць важную ролю ў іспанскай гісторыі
**protección** *f* ахова, абарона; ***p. de la naturaleza*** ахова прыроды; ***p. del medio ambiente*** ахова навакольнага асяроддзя
**proteger** (g/j*) vt* ахоўваць, абараняць; ***p.se de*** хавацца ад /*холаду, спёкі і пад*./
**protesta** *f* пярэчанне, пратэст
**protestar** *vi* пярэчыць, пратэставаць
**provecho** *m* карысць, выгода ***¡buen p.!*** смачна есці!
**provechoso** *adj* выгодны, карысны
**provenir** *vi* (*як* venir, *1 а. адз. л.* provengo) паходзіць, браць пачатак
**proverbio** *m* выслоўе, прымаўка
**provincia** *f* правінцыя
**provisión** *f* харчы, харчовыя запасы
**próximo** *adj* блізкі, суседні, наступны; ***el año p***. у наступным годзе
**proyección** *f* паказ, дэманстрацыя *(фільма)*
**proyectar** *vt* праектаваць, рабіць планы; дэманстраваць *(фільм)*; ***p. una película*** паказваць фільм
**proyecto** *m* праект, план
**prueba** *f* спроба; праверка, выпрабаванне
**publicación** *f* публікацыя, абвяшчэнне; друкаванае выданне, публікацыя

**publicado** *adj* надрукаваны, апублікаваны
**publicar** (c/qu) *vt* друкаваць, публікаваць, выдаваць
**publicidad** *f* рэклама
**público** *1adj* грамадскі, публічны; ***opinión pública*** грамадская думка; *2m* публіка, гледачы
**pueblo** *m* народ; паселішча, вёска, мястэчка
**puente** *m* мост
**puerta** *f* дзверы; брама
**puerto** *m* порт, прыстань
**puertorriqueño** 1. *adj* пуэртарыканскі; 2. *m* пуэртарыканец, жыхар Пуэрта Рыкі
**pues** *1conj* таму што, бо, дык, дык жа; *2part (з пытаннем )* хіба, ці ж; ***¿p. no lo veía?*** хіба Вы не бачылі?; ***p. bien*** ладна, дык вось, ну дык
**puesto** *1adj* пакладзены, пастаўлены; апрануты; *2m* працоўнае месца, пасада *3p.p. да* poner; ***p. que*** бо, з-за таго што, беручы пад увагу
**pulmó** *m* лёгкае; ***p.es*** лёгкія; ***a todo p***. на ўсё горла, на ўсю магутнасць /*пра гук*/
**pulmonía** *f* запаленне лёгкіх
**punta** *f* кончык, канец; вастрыё
**puntero** *m* указка
**punto** *m* кропка, пункт; момант, час; пятля *( ў вязанні)*; ачко; ***al p***. зараз жа; ***poner el p. final*** паставіць апошнюю кропку; ***p.s suspensivos*** шматкроп'е
**puñado** *m* жменя, прыгаршчы
**puño** *m* кулак, жменя; ручка, тронка
**pupitre** *m* парта, пюпітр
**puro** *1adj* чысты; *2m* гаванская цыгара

## Qq

**que** *1pron rel* які, каторы, што; ***el libro que leemos*** кніга, якую мы чытаем; ***el que*** які; la que якая; ***los que*** якія *(м. р.)*; ***las que*** якія *(ж. р.)*; ***no hay de que*** няма за што *(адказ на падзяку)*; *2conj* што, каб, за (*у параўнаннях*); ***dijo que era verdad*** ён сказаў, што тое праўда; ***este coche es más nuevo que aquel*** гэты аўтамабіль навейшы за той; ***dile que venga*** скажы яму, каб прыходзіў; *3part* хай, няхай; ***que diga la verdad*** хай скажа праўду; ***es que***... справа ў тым, што..
**qué** *1pron interr* што, каторы; ***¿qué hora es?*** якая гадзіна***?; ¿quéhaces?*** што ты робіш?; *2pron exclam* які, што за; ***¡que lindo!*** як хараша !; *3adv* што? як?; ***¿qué tal?*** як жывеш? як маешся?
**quedar** *vi* заставацца; знаходзіцца; апынуцца; ***queda una hora*** застаецца адна гадзіна; ***¿queda mucho?*** яшчэ доўга? яшчэ далёка?; ***quedó enfadado*** ён раззлаваўся; ***q.se*** заставацца, знаходзіцца; ***me quedo en casa*** я застаюся дома; ***q.se por***+ *infinitivo* заставацца ***што-н***. зрабіць; ***me queda por aprender la poesía*** мне застаецца вывучыць верш
**quemar** *1vt* паліць; *2vi* пячы, прыпякаць; ***el sol quema*** сонца прыпякае; ***q.se*** апячыся ***se quemó los dedos*** ён апёк сабе пальцы;
**querer** (ie) *vt, irreg* хацець, жадаць; кахаць, любіць; ***q. decir*** значыць; ***eso quiere decir que***... гэта значыць, што..; ***sin q***. ненаўмысна, міжволі; ***yo quisiera***...мне хацелася б...
**querido** *adj* дарагі, каханы, любы
**queso** *m* сыр *(цвёрды)*
**quien** *pron rel* які, каторы; ***las personas a q.es conozco*** людзі, якіх я ведаю; ***hay q.es piensan que.***.. ёсць такія, якія думаюць што...
**quién** *pron interr* (*pl* quienes) хто?; ***¿q. es?*** хто гэта?; ***¿a q.?*** каму ?; ***¿de q.?*** ад каго? чый?
**química** *f* хімія
**quimico** *1adj* хімічны; *2m* хімік
**quince** *num* пятнаццаць; пятнаццаты; ***q. días*** два тыдні; пятнаццаць дзён
**quinientos** *num* пяцьсот; пяцісоты
**quinto** *adj num* пяты
**quiosco** *m* кіёск
**quitar** *vt* здымаць; прыбіраць; адбіраць; ***q. la mesa*** прыбіраць са стала; ***q.se*** распранацца; ***q.se el abrigo*** здымаць паліто
**quiza(s)** *adv* бадай, пэўне, мабыць

## Rr

**rabo** *m* хвост
**racial** *adj* расавы
**racimo** *m* вінаградная гронка
**racional** *adj* разумны, рацыянальны, правільны; ***ser r***. разумная істота
**racismo** *m* расізм
**radiación** *f* спрамяненне, радыяцыя
**radiador** *m* радыятар *(і ў аўтамабілі)*
**radio** I *f* радыё; ***aparato de r***. прыймач, радыёапарат
**radio** II *m* радыус; спіца /*кола*/
**radiografía** *f* рэнтген, рэнтгенаграфія
**raíz** (*pl* raíces) *f* корань; ***a r. de*** з-за, з прычыны
**raja** *f* луста, скрылік
**rama** *f* галіна *(і гаспадаркі)*, галінка
**ramo** *m* букет; ***r. de flores*** букет кветак
**ramillete** *m* букет
**rana** *f* жаба
**rápidamente** *adv* шпарка, хутка
**rapidez** *f* хуткасць, імклівасць
**rápido** *1adj* хуткі, шпаркі; *2adv* хутка
**raramente** *adv* рэдка
**raro** *adj* рэдкі, не часты рэдкі, не густы; дзіўны
**rascacielos** *m* хмарачос *(высотны гмах)*
**rasgo** *m* рыса, лінія, рыса характару
**rastro** *m* след; ***no dejar r***. не пакінуць следу
**rato** *m* момант, пэўны час; ***largo r***. доўга; ***un r***. крыху; ***al poco r***. неўзабаве
**ratón** *m* мыш *(і для кампутару)*
**rayado** *adj* лінаваны *(папера)*, у палоску *(тканіна)*; ***el disco está r***. кружэлку заела
**rayo** *m* прамень; маланка, бліскавіца; ***r.s equis*** рөнтгенавы промні
**raza** *f* раса *(людзей)*, парода *(жывёлы)*
**razón** *f* розум, развага, рацыя правільнасць, прычына, падстава; ***tener r***. мець рацыю, быць правым
**reacción** *f* рэакцыя *(у розных сэнсах)*; ***a r***. рэактыўны
**reaccionar** *vi* рэагаваць
**reaccionario** *1adj* рэакцыйны; *2m* рэакцыянер
**reactor** *m* рэактар
**real** I *adj* рэальны, сапраўдны
**real** II *adj* каралеўскі, царскі
**realidad** *f* рэчаіснасць, сапраўднасць, рэальнасць
**realizar** (z/c) *vt* ажыццяўляць, выконваць, здзяйсняць
**rebelde** *adj* бунтоўны, мяцежны, непакорны
**rebeldía** *f* бунт, рокаш, мяцеж; непакора; ***juzgar en r***. судзіць завочна
**recaudar** *vt* збіраць, атрымліваць *(падаткі)*; ***r. dinero*** збіраць грошы *(як фонд)*
**recepción** *f* прыём *(гасцей, радыёперадачы)*
**receptor** *m* прымач, радыё
**receta** *f* рэцэпт
**recetar** *vt* выпісваць, прыпісваць *(лекі)*
**recibir** *vt* атрымліваць *(ліст і пад.)*; сустракаць, прымаць *(гасцей, свята)*
**recién** *adv* нядаўна, толькі што; ***r. nacido*** немаўля
**reciente** *adj* свежы, нядаўні; ***una foto r***. свежы фотаздымак
**recitar** *vt* дэкламаваць, чытаць /*верш*/
**reclamación** *f* скарга, прэтэнзія; патрабаванне
**reclamar** *vt* патрабаваць; прад'яўляць прэтэнзіі
**recluta** *m* навабранец, рэкрут
**recoger** (g/j) *vt* падбіраць, падымаць; збіраць; ***r. la cosecha*** збіраць ураджай
**recomendar** (ie) *vt* раіць, рэкамендаваць
**reconocer** (c/zc) *vt* пазнаваць, прызнаваць
**reconquista** *f* адваяванне; ***R***. Рэканкіста *(шэраг войнаў у VIII- XV ст. ст. якія вялі іспанскія хрысціяне супраць арабаў па адваяванню Іспаніі)*
**record** (*вымаўляецца* recor) *m* рэкорд; ***en un tiempo r***. за рэкордны час
**recordar** (ue) *vt* успамінаць, узгадваць; памятаць
**recorrer** *vt* абыходзіць, аб'язджаць /*аглядаючы*/
**recreo** *m* забаўка; перапынак *(у навучальнай установе)*
**recto** *adj* прамы, просты, наўпросты
**recuerdo** *m* памяць, успамін; падарунак, сувенір

**rechazar** (z/c) *vt* адхіляць, адмаўляць; адбіваць /*напад*/
**redacción** *f* рэдакцыя
**redondo** *adj* круглы
**reducido** *adj* малы, нязначны, зменшаны
**reducir** (*1 а. адз. л.* reduzco) *vi irreg* скарачаць, змяншаць; абмяжоўваць;
***r.se a*** зводзіцца *(да чаго-н.)*, змяншацца
**referir** (ie) *vt* паведамляць, дакладваць, апавядаць; ***r.se a*** датычыць; ***en lo que se refiere a*** што тычыцца...
**reflejar** *vt* адлюстроўваць; ***r.se*** адлюстроўвацца, адбівацца
**reforma** *f* рэформа, пераўтварэнне
**reformar** *vt* рэфармаваць, пераўтвараць
**refrán** *m* прымаўка, прыказка; прыпеў
**refresco** *m* прахаладжальны напой
**refugiado** *m* уцякач, бежанец
**refugio** *m* сховішча, прыстанак, прытулак
**regalar** *vt* дарыць
**regalo** *m* падарунак
**regar** (ie; g/gu) *vt* паліваць, арашаць
**régimen** (*pl* regímenes) *m* рэжым, лад
**regimiento** *m* полк
**región** *f* раён, вобласць, рэгіён
**regla** *f* правіла; лінейка
**regresar** *vi* вяртацца
**regreso** *m* вяртанне; рэгрэс; ***de r***. вярнуўшыся, вяртаючыся
**regular** I *adj* правільны, рэгулярны звычайны, пасрэдны, сярэдні; ***verbo r***. *грамат*. правільны дзеяслоў
**regular** II *vt* рэгуляваць, парадкаваць
**reina** *f* каралева; ферзь, каралева *( у шахматах)*
**reinar** *vi* панаваць, уладарыць, цараваць
**reino** *m* каралеўства; ***R. Unido*** Аб'яднанае Каралеўства, Вялікабрытанія
**reir** (i) *vi,* **r.se** смяцца, рагатаць
**reja** *f* крата
**relación** *f* адносіны, сувязь; данясенне, расказ; ***r.es*** дачыненні, узаеміны
**relámpago** *m* маланка, бліскавіца
**relatar** *vt* апавядаць, расказваць
**relativo** *adj* адносны
**relato** *m* расказ, апавяданне
**relieve** *m* рэльеф; ***poner de r***. падкрэсліць, выдзеліць
**religión** *f* рэлігія
**religioso** *1adj* рэлігійны; *2m* манах
**reloj** *m* гадзіннік
**relojería** *f* гадзіннікавая майстэрня
**relojero** *m* гадзіннікавы майстар
**relleno** *adj* фаршыраваны
**remar** *vi* веславаць
**remo** *m* вясло; *спарт*. веславанне
**remolacha** *f* бурак, буракі; ***sopa de r***. буракі (*страва)*
**remoto** *adj* далёкі, даўні; ***tiempos r.***s даўнія часы
**renacentista** *adj* рэнесансны, адраджэнскі
**renacimiento** *m* адраджэнне, аднаўленне; ***el R***. эпоха Адраджэння
**rencor** *m* помслівасць, зласлівасць; ***guardar r***. затаіць злосць
**rendir** (i) *vt* падпарадкоўваць; стамляць; аддаваць; ***r. cuenta*** даваць справаздачу; ***r. homenaje*** ушаноўваць; ***r.se*** здавацца, капітуляваць
**reno** *m* алень
**renombre** *m* слава, вядомасць, імя
**renunciar** *vt* адмаўляцца *(ад прапановы, намераў)*
**reñir** (i) *1vt* лаяць, сварыцца; *2vi* лаяцца, сварыцца
**reparar** *vt* рапараваць, рамантаваць, выпраўляць
**repartir** *vt* дзяліць, размяркоўваць раздаваць, распаўсюджваць
**repasar** *vt* паўтараць, праглядаць
**repaso** *m* паўтарэнне *(урока)*
**repente** *m* ***de r***. раптоўна, неспадзявана
**repetir** (i) *vt* паўтараць *(сказанае, вывучанае)*
**repleto** *adj* поўны, перапоўнены
**reportaje** *m* рэпартаж

**reportero** *m* рэпарцёр
**representación** *f* прадстаўленне *(відовішча)*; прадстаўніцтва; выява, вобраз
**representante** *m, f* прадстаўнік, -ніца
**representar** *vt* прадстаўляць, уяўляць з сябе; прадстаўляць /*каго-н. і п'есу*/
**represión** *f* расправа, рэпрэсія
**reprochar** *vt* дакараць, папракаць
**reproche** *m* папрок, дакор
**república** *f* рэспубліка
**republicano** *1adj* рэспубліканскі; *2m* рэспубліканец
**requerir** (ie) *vt* патрабаваць (*часу, цярплівасці і пад.*); запытваць *(звесткі)*
**reserva** *f* запас, рэзерв; умова, агаворка
**reservado** *adj* стрыманы; заказаны загадзя, забраняваны
**reservar** *vt* ашчаджаць, захоўваць; пакідаць у запас, рэзерваваць ***r. el pasaje*** рэзерваваць білет
**resfriado** *1adj* прастуджаны; *2m* прастуда
**resfriarse** прастудзіцца
**residencia** *f* пражыванне, месца жыхарства; інтэрнат; рэзідэнцыя
**resistencia** *f* супор, супраціў; ***oponer r***. аказаць супраціў; вынослівасць, трываласць
**resistir** *1vi* супраціўляцца, не паддавацца; *2vt* вытрымліваць, выносіць
**resolucion** *f* ухвала, рашучасць; развязанне *(праблемы)*, рашэнне
**resolver** (ue) *vt* вырашаць, развязваць *(задачу)*
**resonar** (ue) *vi* гучаць, адгуквацца *(пра рэха)*
**respetar** *vt* паважаць, шанаваць; захоўваць, выконваць *(правілы)*
**respeto** *m* павага, пашана; ***falta al r***. непавага; ***faltar al r***. не паважаць, быць няветлівым
**respiración** *f* дыханне
**respirar** *1vi* дыхаць; *2vt* удыхаць, дыхаць; ***r. el aire fresco*** дыхаць свежым паветрам
**responder** *vi* адказваць *(на пытанне, за што-н.);* ***r. de*** адказваць за, ручацца за
**responsabilidad** *f* адказнасць
**responsable** *adj, m* адказны
**respuesta** *f* адказ
**restablecer** (zc) *vt* аднаўляць; ***r.se*** ачуняць, папраўляцца
**restaurante** *m* рэстарацыя, рэстаран
**resto** *m* рэшта; ***el r. de*** астатнія
**restringir** (g/j) *vt* абмяжоўваць; ***r.se*** абмяжоўвацца
**resultado** *m* вынік
**resultar** *vi* выходзіць, вынікаць, аказвацца
**resumen** *m* сціслы змест, выснова; агляд *(друку)*; ***r. de la prensa*** агляд друку
**retener** (*як* tener) *vt* затрымліваць, стрымліваць; утрымліваць *(у памяці, з заробку*)
**retirar** *vt* адбіраць; выносіць; затрымліваць; ***r.se*** выходзіць, пакідаць
**retrasar** *1vt* затрымліваць, запавольваць; *2vi* адставаць
**retraso** *m* адставанне, спазненне
**retrato** *m* партрэт; здымак
**retrete** *m* прыбіральня
**reunión** *f* сход
**reunir** *vt* злучаць, збіраць, яднаць; ***r.se*** збірацца
**revelado** *m* праяўленне *(стужкі)*
**revelar** *vt* выкрываць, знаходзіць; праяўляць *(стужку)*
**revista** *f* часопіс
**revolución** *f* рэвалюцыя
**revolucionario** *1adj* рэвалюцыйны; *2m* рэвалюцыянер
**rey** *m* кароль
**rico** *1adj* багаты; смачны; пышны; урадлівы; моцны *(мароз); 2m* багацей
**ridículo** *adj* смешны; нязначны, нікчэмны
**rincón** *m* куток; вугал
**río** *m* рака, рэчка
**riqueza** *f* багацце
**risa** *f* смех, рогат
**rival** *m* супернік, канкурэнт
**rizado** *adj* кучаравы, шуты
**robar** *vt* красці, выкрадаць
**roble** *m* дуб
**robo** *m* кража, зладзейства, крадзеж
**roca** *f* скала
**rocoso** *adj* скалісты

**rodear** *1vt* атачаць, абкружаць; *2vi* хадзіць, кружыцца *(вакол чаго-н.)*
**rodilla** *f* калена; ***de r.s*** на каленях, укленчаны
**rogar** (ue; g/gu) *vt* прасіць, маліць
**rojo** *1adj* чырвоны; *2m* чырвоны колер
**romance** *1adj* раманскі *(пра мовы)*; *2m* раманс *(жанр паэзіі)*
**románico** *adj* раманскі *(архітэктурны стыль)*
**romano** *1adj* рымскі; раманскі *(стыль)*; *2m* рымлянін
**romanticismo** *m* рамантызм
**romántico** *adj* рамантычны
**romper** *vt* (*p.p.* roto) ірваць, ламаць; разбіваць, парушаць; ***r.se*** ламацца, ірвацца
**ropa** *f* вопратка
**rosa** *f* ружа; ***color r***. ружовага колеру
**rosado** *adj* ружовы
**rostro** *m* твар, аблічча
**rotativo** *m* газета
**roto** 1*adj* зламаны, парваны; 2*p.p. да* romper
**rotulador** *m* фламастэр
**rubio** *adj* бялявы
**rueda** *f* кола, шына; ***r. de prensa*** прэсавая канферэнцыя
**ruido** *m* шум, гоман
**ruina** *f* руіна, развaліна
**ruiseñor** *m* салавей
**rumor** *m* шум; пагаласка, чутка
**rural** *adj* вясковы, сельскі
**ruso***1adj* рускі, расейскі; *2m* расеец, рускі; расейская /руская мова
**ruta** *f* шлях, дарога, накірунак, маршрут; ***hoja de r***. маршрутны ліст

## Ss

**sábado** *m* субота; ***el s***. у суботу; ***los s.s*** па суботах
**sábana** *f* прасціна
**saber** I *vt irreg* ведаць; умець; ***no lo sé*** я гэтага не ведаю; ***sabe leer*** ён умее чытаць
**saber** II *m* веда, уменне
**sabio** *1adj* разумны, вопытны; *2m* вучоны, мудрэц
**sable** *m* шабля
**sabor** *m* смак
**sabroso** *adj* смачны
**sacapuntas** *m* вастрылка *(для алоўкаў)*
**sacar** (c/qu) *vt* выцягваць, выймаць; атрымліваць; ***s. fotos*** здымаць, фатаграфаваць
**sacerdote** *m* святар
**saco** *m* мяшок, мех; ***s. de dormir*** спальны мяшок
**sacrificar** (c/qu) *vt* ахвяраваць; біць, рэзаць *(жывёліну)*
**sacrificio** *m* ахвяра
**sagrado** *adj* святы, свяшчэнны
**sal** *f* соль
**sala** *f* зала; палата *(лякарні)*; ***s. de deporte*** спартыўная зала; ***s. de espera*** чакальня; ***s. de lectura*** чытальня
**salado** *adj* салёны
**salami** *m* салямі *(гатунак каўбасы)*
**salario** *m* заробак, зарплата
**salchicha** *f* сасіска
**salchichón** *m* вэнджаная каўбаса з шынкі
**salida** *f* выхад, выйсце; узыход *(сонца)*; *спарт*. старт
**salir** *vi irreg* выходзіць, адыходзіць; адпраўляцца (*пра транспарт)*; узыходзіць *(пра сонца)*; атрымлівацца, выходзіць
**salitre** *f* салетра
**salón** *m* салон, вялікая зала
**salsa** *f* соўс, поліўка, прыправа
**saltar** *vi* скакаць, скочыць; ***s. a la comba*** скакаць праз скакалку; ***s. al agua*** скокнуць у ваду; ***s. por encima de***... пераскочыць праз...
**salto** *m* скачок; вадаспад; ***s. Ángel*** вадаспад Анхэль /*найвышшы ў свеце; у Венесуэле*/
**salud** *1f* здароўе; *2interj* ***¡s.!*** прывітанне!
**saludar** *vt* вітацца, здароўкацца

**saludo** *m* вітанне, прывітанне, паклон; ***¡s.!*** прывітанне!
**salvación** *f* збавенне, выратаванне
**salvador** *m* выратавальнік, збаўца; ***Salvador*** Гасподзь, Спас
**salvadoreño** *1adj* сальвадорскі; *2m* сальвадорац, жыхар Сальвадору
**salvaje** *1adj* дзікі, жорсткі; *2m* дзікун
**salvar** *vt* ратаваць; пераадольваць; ***s. un obstáculo*** пераадолець перашкоду; ***s.se*** выратавацца, уратавацца
**sanatorio** *m* санаторый
**sanción** *f* санкцыя, кара; ***s.es*** санкцыі, меры
**sandalias** *f pl* сандалі
**sandía** *f* кавун
**sangrar** *vi* крывавіць, цячы *( пра кроў)*
**sangre** *f* кроў
**sano** *adj* цэлы, здаровы, дужы
**santa** *f* святая
**santo** *adj, m* святы
**sardinas** *f pl* сардзіны
**sargento** *m* сяржант
**sartén** *f* патэльня
**satélite** *m* спадарожнік, сатэліт
**satisfacción** *f* задавальненне
**satisfacer** *vi irreg* (*1 а. адз. л.* satisfago), (*p.p.* satisfecho) задавальняць
**satisfecho** *1adj* задаволены; *2p.p. да* satisfacer
**se** *1pron refl (він. і дав. склон 3 а. адз. і мн. л.)* сябе, сабе; ***se compró un libro*** ён купіў сабе кнігу; *2pron pers (3 а. адз і мн. л. пры асабовым займенніку ў 3 а. ў він. склоне)* ***se lo dijo*** ён /яна яму/ ёй, вам, ім гэта сказаў /сказала; *3part (у безасабовых сказах)* ***se ve*** відаць; ***aquí se habla español*** тут гавораць па-іспанску
**secar** *vt* сушыць, выціраць; ***s.se*** выцірацца; сохці, высыхаць
**sección** *f* аддзел, секцыя *( і спартыўная)*
**seco** *adj* сухі
**secretaria** *f* сакратарка
**secretario** *m* сакратар; ***s. general*** генеральны сакратар
**secreto** *1adj* сакрэтны, таемны; *2m* сакрэт, таямніца
**sector** *m* сектар; галіна; ***s. naval*** суднабудаўнічая галіна
**sed** *f* смага; прага; ***tener sed*** хацець піць, смагнуць; ***tengo sed*** я хачу вады /піць
**seda** *f* шоўк
**sede** *f* сядзіба; пасад; месца знаходжання; ***Santa S.*** Святы Пасад *(Ватыкан)*
**seguida** *f* працяг; ***en s***. адразу ж, тут жа
**seguir** (i; gu/g) *vt* працягваць; ісці следам/ўслед, сачыць; ***¡siga!*** працягвайце!; ***¡seguidme!*** ідзіце за мною! ***s***.+ *gerundio (выражае працягласць дзеяння)* працягваць; ***ella seguia leyendo*** яна працягвала чытаць
**según** *prep* па, паводле, згодна з, у залежнасці ад; ***s. dicen*** як кажуць; ***s. mi opinión*** на маю думку
**segundo** *1adj num* другі; *2m* секунда
**seguramente** *adv* вядома, канешне, напэўна
**seguridad** *f* бяспека; упэўненасць
**seguro** *adj* надзейны, бяспечны, упэўнены; ***estar s. de*** быць упэўненым у
**seis** *num* шэсць; шосты
**seiscientos** *num* шэсцьсот
**selección** *f* выбар, адбор; *спарт*. зборная каманда; ***s. nacional de***... нацыянальная зборная па...
**selva** *f* трапічны лес, джунглі; ***s. oscura*** цёмны лес *(пра незразумелае)*
**sello** *m* марка *(паштовая)*; пячатка, штамп
**semana** *f* тыдзень; ***S. Santa*** перадвелікодны тыдзень
**semanal** *1adj* тыднёвы, штотыднёвы
**sembrar** (ie) *vt* сеяць
**semejante** *adj* падобны, такі
**semilla** *f* насенне
**sencillez** *f* прастата, шчырасць
**sencillo** *adj* просты, няхітры, шчыры
**sendero** *m* сцежка, сцяжынка; ***S. Luminoso*** Зіхоткая сцяжынка *(леварадыкальная групоўка ў Перу)*
**sensacion** *f* пачуццё, адчуванне
**sensibilidad** *f* чуйнасць, уражлівасць; адчувальнасць
**sentado** *adj* седзячы; які сядзіць; ***estar s***. сядзець
**sentar** (ie) *vt* садзіць; ***s.se*** сядаць
**sentido** *m* пачуццё, адчуванне; сэнс; прытомнасць; бок, накірунак; ***no tiene s***. не мае сэнсу
**sentimental** *adj* сентыментальны; асабісты, інтымны
**sentimiento** *m* пачуццё

**sentir** (ie; i) *vt* адчуваць; шкадаваць, спачуваць
**señal** *m* знак, сігнал
**señalar** *vt* паказваць; адзначаць; прызначаць
**señor** *m* (*скарот* Sr.) спадар, пан, гаспадар; ***S.*** Бог, Гасподзь
**señora** *f* ( *скарот* Sra) спадарыня, пані, гаспадыня; ***s.s y señores*** спадарства
**señorita** *f* паненка, сеньёрыта
**señorito** *m* паніч
**separación** *f* аддзяленне, падзел; расстанне, развод
**separado** *adj* аддзелены, асобны; ***por s***. паасобку
**separar** *vt* аддзяляць, адхіляць; раздзяляць, разлучаць; ***s.se*** разлучацца; разводзіцца
**se(p)timo** *num* сёмы
**sepulcro** *m* надмагільны помнік, магіла; ***Santo S***. Святая труна *(у Ерушалайме)*
**sepultar** *vt* хаваць *(нябожчыка)*
**sepultura** *f* магіла; ***dar s***. пахаваць *(нябожчыка)*
**ser** I *1vi irreg* быць, існаваць; здарацца; каштаваць; належаць; (*дапаможны дзеяслоў*); ***es mi hermana*** гэта мая сястра; ***la novela fue escrita por Galdós*** раман быў напісаны Гальдосам; ***es necesario*** неабходна; ***es tarde*** позна; ***ser de*** паходзіць з; належаць /*каму-н.*/; ***el libro es de Juan*** кніга Хуана; es ***de Méjico*** ён/ яна з Мексікі; ***ser de*** + *infinitivo* трэба, належыць + *дзеяслоў*; ***es de suponer que***... трэба меркаваць, што..
**ser** II *m* істота, стварэнне; існаванне, быццё; ***s. humano*** чалавек
**serenidad** *f* спакой
**sereno** *adj* спакойны, ціхі, ясны *(пра неба)*
**serie** *f* шэраг; серыя, партыя
**serio** *adj* сур'ёзны, важны
**serpiente** *f* змяя
**servicio** *m* служба; паслуга
**servir** (i) *vi* служыць, несці службу; падаваць на стол; быць прыдатным, служыць /*чым-н.*/; ***no s. de nada*** быць нікуды не вартым
**sesenta** *num* шэсцьдзесят
**sesión** *f* сесія, паседжанне; сеанс
**seta** *f* грыб
**setecientos** *num* семсот
**setenta** *num* семдзесят
**setiembre** *m* верасень
**severo** *adj* строгі, суровы
**sexo** *m* пол; секс
**sexto** *num* шосты
**sexual** *adj* полавы; сексуальны; ***abusos s.es*** сексуальныя злоўжыванні
**si** *1conj* калі; ***si es así acepto*** калі гэта так, я згодны; калі б (*з наступным дзеясловам у* subjuntivo); ***si no lo supiera no lo diría*** калі б не ведаў, то не казаў бы; ***si bien*** хоць, нават, калі; ***por si acaso*** на ўсялякі выпадак; *2part* ці, ж; ***no se si dice la verdad*** не ведаю, ці кажа ён праўду
**sí** I *pron refl (ужываецца з прыназоўнікамі)* сабе, сабою; ***lo trajo para sí*** ён прынёс гэта сабе/ для сябе;
**sí** II *adv* так, але; ***dar el sí*** сказаць "так", даць сваю згоду; ***decir que sí*** сказаць "так", пацвердзіць;(*узмацняльная часціца*) ***pero sí que lo quiere*** але ж ён гэтага хоча
**sida** *m* снід *(хвароба)*
**sidoso** *adj* хворы на снід
**siempre** *adv* заўсёды; ***para s***. назаўсёды, назаўжды
**sierra** *f* піла; горны ланцуг
**siesta** *f* паўдзённы адпачынак, паўдзённы сон; ***dormir la s***. спаць пасля абеду, адпачываць у паўдзённую спёку
**siete** *num* сем; сёмы
**siglo** *m* стагоддзе
**significación** *f*; **significado** *m* значэнне
**significar** (c/qu) *vi* значыць, абазначаць
**signo** *m* знак, значок
**siguiente** *adj* наступны; ***al día s***. назаўтра
**sílaba** *f* склад *(слова)*
**silencio** *m* цішыня, ціш; маўчанне
**silencioso** *adj* маўклівы; ціхі
**silla** *f* крэсла; сядло
**sillon** *m* крэсла *(вялікае)*
**simbolo** *m* сымболь, сімвал
**similar** *adj* падобны, аналагічны
**simpatía** *f* сімпатыя
**simpático** *adj* сімпатычны

**simple** *adj* просты, нескладаны; просты, няхітры
**simultáneo** *adj* адначасны, адначасовы
**sin** *prep* без; ***venir sin su amigo*** прыйсці без сябра; ***sin duda*** несумненна; ***sin***+ *infinitivo (перадаецца дзеепрыслоўем у адмоўнай форме)*; ***hablar sin parar*** гаварыць не спыняючыся; ***entrar sin saludar a nadie*** зайсці, ні з кім не павітаўшыся; ***sin querer*** ненаўмысна; ***sin falta*** абавязкова
**sincero** *adj* шчыры, адкрыты, просты
**sindical** *adj* прафсаюзны
**sindicato** *m* прафсаюз
**sinfonía** *f* сімфонія
**singular** *1adj* своеасаблівы, незвычайны, адзіны; *2m грамат*. адзіночны лік
**sino** *1conj (ужываецца пасля адмоўя)* а, але; ***no lee s. escribe*** не чытае, а піша; *2adv (пасля адмоўя)* толькі, усяго; ***no tengo s. un par de zapatos*** у мяне ўсяго толькі адна пара чаравікоў
**sinónimo** *m* сінонім
**siquiera** *conj* хаця, хоць бы; ***ni s***. нават не; ***ni s. la recibio*** ён яе нават не прыняў
**sistema** *m* (*мужчынскага роду*!) сістэма
**sistemático** *adj* сістэматычны
**sitio** *m* месца; мясцовасць
**situación** *f* становішча, сітуацыя
**situado** *adj* размешчаны; ***estar s***. размяшчацца, знаходзіцца
**situar** *vt* размяшчаць, памяшчаць; ***s.se*** знаходзіцца, размяшчацца
**soberanía** *f* вяршэнства, суверэнітэт
**sobre** I *prep* на, наверсе, зверху; пра; ***s. la mesa*** на стале; ***hablar s. el hecho*** гаварыць пра падзею; ***s. todo*** асабліва, пераважна, найперш;
**sobre** II *m* канверт, абгортка
**sobresaliente** *adj* выдатны
**sobrevivir** *vi* выжыць, застацца жывым
**sobrina** *f* нябога, пляменніца
**sobrino** *m* нябож, пляменнік
**sociable** *adj* гаваркі, кампанейскі
**socialismo** *m* сацыялізм
**socialista** *1adj* сацыялістычны; *2m* сацыяліст
**sociedad** *f* грамадства, таварыства; ***s. de consumo*** грамадства спажывання
**socorrer** *vt* дапамагаць
**socorro** *m* дапамога, паратунак; ***¡s.!*** ратуйце!
**sofá** *f* канапа
**sol** *m* сонца; ***tomar el s***. грэцца на сонцы, загараць
**solamente** *adv* толькі
**solar** *adj* сонечны
**soldado** *m* салдат
**soledad** *f* адзінота; пустэча
**solemne** *adj* урачысты
**soler** (ue) *vi* мець звычай, звычайна; звычайна надарацца; ***a esta hora suelo estar en casa*** у гэты час я зазвычай дома
**solidaridad** *f* салідарнасць
**solidario** *adj* салідарны
**sólido** *adj* цвёрды; трывалы; грунтоўны
**solitario** *adj* адзінокі
**solo** *adj* адзін, адзінокі
**sólo** *adv* толькі, усяго
**soltar** (ue) *vt* выпускаць, адпускаць
**solución** *f* развязанне; рашэнне, вырашэнне; рошчына
**sombra** *f* цень
**sombrero** *m* капялюш
**someter** *vt* падпарадкоўваць, скараць; падвяргаць
**sonido** *m* гук
**sonoro** *adj* звонкі,гучны
**sonreir** (i) *vi, **s.se*** усміхацца
**sonrisa** *f* усмешка
**sonrojarse** пачырванець
**soñador** *m* летуценнік, фантазёр
**soñar** (ue) *vi* (con) марыць; бачыць у сне, сніць
**sopa** *f* поліўка, суп; ***s. de pescado*** рыбная юшка
**soplar** *1vi* дзьмуць; ***sopla el viento*** дзьме вецер; *2vt* даносіць, выдаваць; задзімаць; ***s. la candela*** задзьмуць

/патушыць свечку
**soplón** *m* даносчык, стукач
**soportar** *vt* трымаць, вытрымліваць; падтрымліваць
**sordo** *adj* глухі
**sordomudo** *adj; m* глуханямы
**sorprender** *vt* дзівіць, здзіўляць; засцігаць знянацку; ***s.se*** здзіўляцца
**sorpresa** *f* здзіўленне, нечаканасць; сюрпрыз; ***dar la s***. здзіўляць
**sospecha** *f* падазронасць
**sospechar** *vt* падазраваць
**sospechoso** *adj* падазроны
**sostener** *vt* (*як* tener) падтрымліваць, падпіраць; дапамагаць; сцвярджаць
**su** *pron pos* яго, яе, іх, Ваш, Ваша, ягоны, ейная, іхні
**suave** *adj* мяккі, пяшчотны, прыемны
**subir** *vt* узнімацца, узлазіць; узыходзіць; ***¡suba!*** сядайце! залазьце! *(у транспарт)*; ***s. la escalera*** узнімацца па лесвіцы
**subjuntivo** *m грамат.* каньюнктыў *(лад дзеяслова)*
**sublevación** *f* паўстанне, мяцеж
**sublevarse** паўставаць; абурацца, пратэставаць
**submarino** *1adj* падводны; *2m* падводны човен
**subordinado** *adj* падпарадкаваны, падначалены; *грамат*. даданы *(сказ)*
**substancia** *f*, **sustancia** *f* рэчыва, субстанцыя; сутнасць
**substantivo** *m*, **sustantivo** *m грамат*. назоўнік
**subsuelo** *m* нетры
**subterráneo** *1adj* падземны; *2m* сутарэнне, падзямелле
**suceder** *vi* здарацца, надарацца; ісці за; ***el día sucede a la noche*** дзень змяняе ноч
**sucesión** *f* паслядоўнасць; спадчына
**suceso** *m* падзея, здарэнне
**sucio** *adj* брудны
**sudamericano** *adj* паўднёваамерыканскі
**sudor** *m* пот
**sueco** *1adj* шведскі; *2m* швед; шведская мова
**sueldo** *m* заробак
**suelo** *m* зямля, глеба; падлога
**suelto** *adj* асобны; адпушчаны, вызвалены, свабодны
**sueño** *m* мара; сон; сненне; ***tener s***. хацець спаць; ***tengo s***. я хачу спаць
**suerte** *f* лёс; удача, шанцаванне; ***tener s***. шанцаваць; ***tiene s***. яму /ёй шанцуе; ***de s. que***... так што...
**suficiente** *1adj* дастатковы; *2adv* дастаткова, досыць
**sufijo** *m грамат*. суфікс
**sufrimiento** *m* пакута
**sufrir** *vt* пакутаваць, цярпець
**suizo** *1adj* швейцарскі; *2m* швейцарац
**sujeto** *m* асоба, суб’ект; *грамат*. дзейнік
**suma** *f* сума, вынік
**sumar** *vt* складаць, дадаваць; сцісла выкладаць; ***s. se a*** далучацца да
**sumir** *vt* хаваць, апускаць *(у зямлю)*
**superar** *vt* перавышаць; пераадольваць
**superficie** *f* паверхня, плошча
**superior***1adj* верхні, найвышэйшы, вярхоўны; *2m* начальнік
**superlativo** *1adj* найвышэйшы; *2m грамат*. найвышэйшая ступень параўнання
**supersónico** *adj* звышгукавы, надгукавы
**suplicar** (c/qu) *vt* прасіць, маліць
**suponer** *vt* (*як* poner) меркаваць, думаць, лічыць; ***supongo que***... мяркую, што...
**supremo** *adj* вярхоўны, вышні
**suprimir** *vt* ухіляць, адмяняць; прапускаць, абыходзіць
**sur** *m* поўдзень
**surgir** (g/j) *vi* узнікаць, з’яўляцца; ***surge una pregunta***... узнікае пытанне...
**surtidor** *m* фантан
**suscripción** *f* падпіска *(на што-н.)*
**suspender** *vt* вешаць, падвешваць; прыпыняць, затрымліваць; праваліць /*на экзамене*/
**sustancia** *f* рэчыва, субстанцыя; сутнасць
**sustantivo** *m грамат.* назоўнік
**sustituir** (uy) *vt* замяняць, замяшчаць
**sútil** *adj* тонкі, далікатны *(і пах)*; праніклівы

**suyo** *adj, pron pos* ягоны, ейны, Ваш, Ваша, іхні

## Tt

**tabaco** *m* тытунь
**tabla** *f* дошка
**tablero** *m* дошка абвестак, табло
**tableta** *f* таблетка, кружок *(лекаў)*
**tal** *1adj (нязменнае слова)* такі,такая; *2adv* так, такім чынам; *3conj* ***con tal que*** калі толькі; каб
**talento** *m* талент
**taller** *m* майстэрня, атэлье
**tamaño** *1m* памер, велічыня; *2adj* такі, такой велічыні
**también** *adv* таксама, гэтаксама; да таго ж, акрамя таго
**tambor** *m* барабан
**tampoco** *adv* таксама не; ***este libro t. es interesante*** гэтая кніжка таксама нецікавая
**tan** *adv* так, такі, гэтак жа; ***Pedro es tan inteligente como Juan*** Пэдра такі ж разумны як і Хуан
**tango** *m* танга
**tanto** *1adj* гэтак, гэтулькі, столькі; ***¡hay tanta alegria!*** тут столькі радасці!; *2adv* так шмат, столькі; ***¡trabaja t.!*** ён столькі працуе!; ***un t***. крышку, трошачкі; ***t***... ***como***...як... гэтак і...
**tapa** *f* вокладка *(кнігі)*; накрыўка, вечка
**tapar** *vt* накрываць, закрываць; ***t.se*** закрывацца, захінацца *(рукамі, хусцінкаю)*
**taquilla** *f* білетная каса
**tardar** *vi* марудзіць, спазняцца, траціць час; ***tardamos dos horas en llegar*** у нас пайшло дзве гадзіны на дарогу
**tarde** *1f* надвячорак, вечар, пасляпаўдзённы час; ***por la t.*** увечары; ***a las dos de la tarde*** а другой гадзіне дня; ***¡buenas t.s!*** добры вечар!; *2adv* позна; ***más t***. пазней; ***demasiado t***. занадта позна, запозна
**tarea** *f* задача, заданне; справа
**tarjeta** *f* паштоўка, картка; ***t. postal*** паштоўка
**tarro** *m* слоік
**tarta** *f* торт, салодкі пірог
**taxi** *m* таксі, таксоўка
**taza** *f* кубак, кубачак; ***una t. de café*** кубачак кавы
**te** *pron pers (він. і дав. склон 2 а. адз. л.)* цябе, табе; ***te he visto*** я цябе бачыў; ***te ha dado la goma*** ён табе даў сцірку
**té** *m* гарбата, чай
**teatro** *m* тэатр; драматургія; п'еса; ***escribir t***. пісаць п'есы; ***t. lírico*** оперны тэатр
**técnica** *f* тэхніка
**técnico** *1adj* тэхнічны; *2m* тэхнік; *спарт*. трэнер
**techo** *m* столь; дах, страха
**tejado** *m* дах *(з чарапіцы)*
**tejedora** *f* ткачыха
**tejer** *vt* ткаць; вязаць, плесці
**tela** *f* тканіна
**tele** *f* = **television** *f*
**telefonear** *vt* тэлефанаваць
**telefónicamente** *adv* па тэлефоне; ***conversar t. con*** размаўляць па тэлефоне з
**teléfono** *m* тэлефон; ***t. movil*** сотавы тэлефон; ***por t***. па тэлефоне
**telegrama** *f* тэлеграма (*мужчынскага роду!)*
**televisión** *f* тэлебачанне; ***mirar***/ ***ver la t***. пазіраць /глядзець тэлевізар; ***aparato de t***. Тэлевізар
**telón** *m* заслона *(у тэатры)*
**tema** *m* тэма, змест; аснова *(слова)*; (*мужчынскага роду!)*
**temblar** *vi* дрыжаць, калаціцца, трымцець
**temer** *vt* палохацца, баяцца
**temor** *m* страх, боязь; ***t.es*** страхі, апасенні
**temperatura** *f* тэмпература; гарачка
**templado** *adj* цёплы; мяккі, умеркаваны *(пра клімат)*; загартаваны
**templo** *m* святыня, царква, храм
**temporada** *f* сезон, пара году
**temprano** *1adj* ранні; заўчасны; *2adv* рана
**tendencia** *f* памкненне, тэндэнцыя
**tender** (ie) *1vt* цягаць, расцягваць; вешаць *(бялізну)*; пракладаць *(дарогу)*; *2vi* ***t. a*** + *infinitivo* мець схільнасць да *чаго-н*.; ***el tiempo tiende a mejorar*** надвор'е пачынае лепшаць; ***t.se*** легчы, выцягнуцца
**tenedor** *m* відэлец; ***t. de libros*** бухгалтар
**tener** (ie) *vt irreg* мець, валодаць, трымаць; ***tengo dos hermanos*** у мяне два браты; ***tiene doce años*** яму дванаццаць

год; ***t. en las manos*** трымаць у руках; ***t. por*** лічыць *якім-н.*; ***le tiene por listo*** ён лічыць яго разумным; ***t. que*** + *infinitivo* трэба, неабходна, мусіць *(што-н. зрабіць)*; ***tengo que irme*** мне трэба пайсці; ***tiene que hacerlo*** ён мусіць зрабіць гэта; ***tengo frío*** /***calor*** мне холадна /горача; ***tengo hambre*** я галодны/ я хачу есці; ***t. ganas de*** хацець, хацецца; ***t. lugar*** адбывацца; ***t. miedo*** баяцца; ***t. razón*** мець рацыю, быць правым
**teniente** *m* лейтэнант; ***t. coronel*** падпалкоўнік
**tensión** *f* напружанне, напружанасць *(нервовая, электрычная)*; ціск *(крыві)*; ***tomar la t.*** мераць ціск крыві
**teoria** *f* тэорыя
**tercer** *num (скарот ад* tercero, *ужываецца перад наз. м. р.)*; трэці; ***el t. mes*** трэці месяц
**tercero** *num* трэці; ***la t.a semana*** трэці тыдзень
**terminar** *1vt* канчаць; *2vi* канчацца
**terminado** *adj* скончаны, закончаны
**término** *m* канец, заканчэнне; мяжа, рубеж; тэрмін, выраз; ***poner t. a*** скончыць; ***t.s*** словы
**terremoto** *m* землятрус
**terreno** *m* глеба; мясцовасць; пляц, участак
**terrible** *adj* жахлівы, страшэнны
**territorio** *m* абшар, тэрыторыя
**terror** *m* тэрор; страх
**terrorista** *1adj* тэрарыстычны; *2m* тэрарыст
**tertulia** *f* вечарынка; кампанія *(сяброў)*
**tesón** *m* упартасць, цвёрдасць, рашучасць
**tesoro** *m* скарб, каштоўнасць
**testigo** *m* сведка; ***t. ocular*** навочны сведка
**testemoniar** *vt* сведчыць
**testimonio** *m* сведчанне; доказ
**tetera** *f* імбрык, чайнік
**textil** *adj* тэкстыльны; ткацкі
**texto** *m* тэкст
**tí** *pron pers (2 а. адз. л., ужываецца з прыназоўнікамі)* табе, цябе, табою; ***para tí*** для цябе, табе; ***te lo digo a tí*** я кажу гэта табе
**tía** *f* цётка
**tiburón** *m* акула
**tiempo** *m* час; пара; надвор'е; ***a t.*** у час; ***hace mucho t.*** даўно; ***no tengo t.*** мне некалі; ***de t. en t.*** час ад часу, раз-пораз; ***hace buen***/***mal t.*** стаіць добрае /кепскае надвор'е; ***en los tiempos de Maricastaña*** не за нашай памяццю
**tienda** *f* крама, лаўка; ***t. de campaña*** палатка
**tierra** *f* зямля, зямны шар; зямля, глеба
**tigre** *m* тыгр; пума *(у Лацінскай Амэрыцы)*
**tijeras** *f pl* нажніцы
**timbre** *m* званок; ***tocar el t.*** пазваніць у званок; ***toca el t.*** звініць званок
**tímido** *adj* нясмелы, сарамлівы
**tinta** *f* чарніла
**tintero** *m* чарніліца
**tío** *m* дзядзька; тып, асоба *(чалавек)*
**típico** *adj* тыповы; традыцыйны, народны; ***traje t.*** нацыянальны строй
**tipo** *m* тып; ***¿qué t. de..?*** што за...?
**tirar** *vt* кідаць, шпурляць; цягнуць, тузаць; страляць
**tiro** *m* стрэл; страляніна
**títere** *m* марыянетка *(і асоба)*; ***teatro de t.s*** лялечны тэатр
**titulado** *adj* названы, які мае загаловак
**titular** *vt* даваць назоў, даваць загаловак; тытулаваць
**título** *m* назоў, загаловак; званне, тытул
**tiza** *f* крэйда
**toalla** *f* ручнік, уціральнік; ***arrojar la t.*** здацца, капітуляваць; *(як у боксе кідаюць ручнік, каб спыніць няроўны бой*
**tocadiscos** *m* прайгравальнік
**tocar** (c/qu) *vt* чапаць; кранаць, датыкацца; закранаць, тычыцца; ***t. el acordeón*** іграць на гармоніку; ***t. el timbre*** званіць у званок; ***t. en lo vivo*** закрануць за жывое; ***eso no me toca*** гэта мяне не тычыцца
**todavía** *f* яшчэ, усё яшчэ
**todo** *1adj (з азначальным артыклем)* увесь; ***t. el día llovió*** увесь дзень ішоў дождж; ***t.s los días*** штодня, кожны дзень; *(з неазначальным артыклем)* цэлы, сапраўдны; ***es t. un hombre*** ён ужо сапраўдны мужчына; *(без артыкля)* усялякі, кожны; ***toda ama de casa*** кожная/ любая хатняя гаспадыня; *2pron* усе; ***t.s piensan así*** усе так думаюць; *3adv* усё; ***t. lo ve*** ён усё бачыць; ***ante t.*** перад усім, найперш; ***sobre t.*** асабліва; *(з адмоўем)* ***del t.*** зусім; ***t. el año*** круглы год, увесь год; ***t. el día*** цэлы дзень;
**tomar** *vt* браць, узяць; піць, есці; садзіцца, ехаць; ***¡toma!*** вось! бяры! на!; ***t. asiento*** сядаць; ***t. café*** / ***té*** піць каву

/гарбату; ***t. el sol*** грэцца на сонцы, загарацьц; ***t. parte*** удзельнічаць; ***t. por*** лічыць /*кім-н.*/; ***t. por un niño*** лічыць дзіцём; ***t. el tren*** сядаць у цягнік;
**tomate** *m* памідор, тамат; ***de t***. таматны, з памідораў
**tomo** *m* том
**tonelada** *f* тона
**tono** *m* тон
**tontería** *f* глупства, дурасць
**tonto** *1adj* дурны; *2m* дурань
**torcer** (ue; c/z) *vt* круціць, віць; павярнаць; перакручваць *(сэнс)*
**torero** *m* тарэра
**torneo** *m* турнір
**tornero** *m* токар
**torno** *m* такарны варштат; ***en t. a***/ ***de*** вакол *(каго-, чаго-н.)*
**toro** *m* бык, вол; ***corrida de t.s*** карыда, гульня з быком
**torre** *f* вежа
**torrente** *m* плынь; вадаспад
**torta** *f* блінец, млінец; булка, круглы пірог
**tortilla** *f* яешня, амлет; ***t. de gambas*** амлет з крабамі
**tortuga** *f* чарапаха
**tortura** *f* катаванне, пакуты
**tostada** *f* грэнка, падпражаны хлеб
**total** *1adj* увесь, поўны, цэлы; *2m* вынік; ***en t***. разам, агулам
**totalitario** *adj* таталітарны; ***régimen t***. таталітарны рэжым
**trabajador** *1adj* працавіты; працоўны; *2m* працаўнік, работнік
**trabajar** *1vi* працаваць; *2vt* абрабляць, апрацоўваць
**trabajo** *m* праца, намаганне; ***costar t***. каштаваць намаганняў
**tractor** *m* цягач, трактар
**tradición** *f* традыцыя; паданне
**tradicional** *adj* традыцыйны
**traducción** *f* пераклад
**traducir** (zc) *vt irreg* перакладаць
**traer** *vt irreg* прыносіць, прыводзіць
**tráfico** *m* рух, дарожны рух; гандаль, камерцыя
**tragedia** *f* трагедыя
**trágico** *adj* трагічны
**traición** *f* здрада
**traicionar** *vt* здраджваць
**traidor** *1adj* здрадніцкі; *2m* здраднік
**traje** *m* строй, вопратка, гарнітур; ***t. de baño*** купальны касцюм; ***t. típico*** нацыянальны строй
**tranquilidad** *f* спакой, цішыня
**tranquilizar** (z/c) *vt* супакоіць, уціхамірыць; ***t.se*** супакойвацца, уціхамірыцца
**tranquilo** *adj* спакойны, ціхамірны
**transbordo** *m* перасадка *(транспартная)*; ***hacer t***. перасядаць, рабіць перасадку
**transeúnte** *m* мінак
**transformación** *f* ператварэнне, пераўтварэнне
**transformar** *vt* ператвараць, пераўтвараць; ***t.se*** ператварацца, пераўтварацца
**transmisión** *f* перадача *(па радыё і пад.)*; трансмісія
**transmitir** *vt* перадаваць, трансляваць
**transplante** *m* перасадка *(органаў)*
**transporte** *m* транспарт
**transportista** *m* транспартнік
**tranvía** *m* трамвай
**trapo** *m* ануча
**tras** *prep* за, услед за, ззаду, праз; пасля таго як
**trasero** *adj* задні
**trasladar** *vt* пераносіць, пераводзіць, перамяшчаць
**tratado** *m* дамова, пагадненне; трактат
**tratar** *1vt* абыходзіцца *(з кім-н.)*; абмяркоўваць; апрацоўваць, уздзейнічаць; *2vi* ***t. de***+ *infinitivo* намагацца, імкнуцца, старацца *(зрабіць што-н.)*; ***t. de*** гаварыць, пісаць, весці гаворку пра; ***se trata de***...апавядаецца пра
**trato** *m* абыходжанне, стаўленне; сяброўства, дружба
**través:** ***a t. de*** праз, скрозь
**trece** *num* трынаццаць; трынаццаты *(дата, старонка)*
**trecho** *m* адрэзак, участак *(шляху)*; ***del dicho al hecho hay mucho t***. цацанкі- абяцанкі

